


# Адкрыццё Святых Дзвярэй ў Мінскай архікатэдры















# Хрыстус – гэта Брама,

## якая вядзе да збаўлення

*У вігілію Божага Нараджэння 1999 года Папа Ян Павел II адчыніў Святыя Дзверы ў базыліцы Святога Пятра ў Рыме, інаўгуруючы гэтай цырымоніяй Вялікі Юбілей Адкуплення 2000 Года.*

***«Вось Брама Пана, праз яе праходзяць справядлівыя»***, – сказаў Святы Айцец перад тым, як адкрыць Святыя Дзверы, цытуючы словы псальма. «Праз Хрыста, адзіную Святую Браму да Айца, сімвал якой – гэтыя Дзверы, парог якіх мы пераступаем і ўваходзім у новае тысячагоддзе, паглыбіўшыся ў Яго збаўчае слова. Нанова распальваюцца светачы веры, з радасным спевам у нашых сэрцах і на нашых вуснах», – гаварыў Ян Павел II.




Прыгожая ўрачыстасць распачалася чытаннем фрагмента з Евангелля ад св. Лукі, у якім Езус нагадвае словы прарока Ісаі: ***«Абвяшчайце год ласкі ад Пана»***.

Пасля цырымоніі адкрыцця Святых Дзвярэй Ян Павел II адправіў святочную Святую Імшу. У сваёй гаміліі ён сказаў: «На працягу 20 стагоддзяў гэта радасная навіна гучыць з сэрца Касцёла. У гэтую святую ноч Анёл паўтарае нам, жанчынам і мужчынам канца стагоддзя: «Не бойцеся! Вось абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе лёсам усяго народа: сёння ў месце Давідавым нарадзіўся вам Збавіцель» (Лк 2, 10-11). Якія ж суцяшальныя гэтыя словы! Мы падрыхтаваліся, каб іх прыняць у часе Адвэнту: ажыццяўляецца ў іх «сёння» нашага Адкуплення. У гэтую гадзіну «сёння» гучыць асаблівым тонам, бо гэта не толькі ўспамін Нарадзін Адкупіцеля, але таксама ўрачысты пачатак Вялікага Юбілею. Духоўна яднаемся з гэтым асаблівым момантам гісторыі, у які Бог стаўся чалавекам, прымаючы людскую постаць.

Так, Сын Чалавечы, адзінасутны з Айцом, Бог з Бога, Святло са Святла, народжаны з Айца, прыняў цела з Дзевы і стаўся чалавекам. Нарадзіўся ў часе. Бог увайшоў у гісторыю. У гэтым непаўторным «сёння» вечны Бог стаў удзельнікам штодзённай людской рэчаіснасці.

(...) Ты – Хрыстус, Сын Бога Жывога! На парозе трэцяга тысячагоддзя Касцёл вітае Цябе, Сыне Божы, які прыйшоў на свет, каб перамагчы смерць, а на людское жыццё спасласць святло праз Евангелле. Касцёл вітае Цябе і разам з Табою хоча ўвайсці ў трэ-









цяе тысячагоддзе. Ты – наша надзея. Толькі Ты маеш словы жыцця вечнага.

Ты, што прыйшоў на свет у ноч Бэтлеемскую, застанься з намі! Ты, які ёсць Дарога, Праўда і Жыццё, вядзі нас!

Ты, што прыйшоў ад Айца, вядзі нас да Яго ў Духу Святым тою дарогаю, якую толькі Ты ведаеш, а нам аб'явіў, каб мы мелі жыццё і мелі яго ўдосталь! Ты, Хрыстэ, Сыне Бога Жывога, будзь для нас Брамай!

Будзь для нас Брамай, падобнай да тае брамы, якую ў гэтую ноч мы ўрачыста адчынілі!

Будзь для нас Брамай, якая ўводзіць нас у таямніцу Айца. Учыні, каб ніхто не быў пазбаўлены Яго міласэрных і поўных спакою абдымкаў!

«Hodie natus est nobis Salvator mundi»: гэта Хрыстус – адзіны наш Збавіцель! Вось пасланне на Божае Нараджэнне 1999: «сёння» гэтай Святой Ночы адкрывае Вялікі Юбілей.

Марыя, зорка ранішняя новага часу, будзь пры нас, калі, поўныя даверу, мы робім першыя крокі ў Юбілейным Годзе. Амэн.

*На здымках, атрыманых з Ватыканскіх старонак у інтэрнэце, — падчас урачыстасці адкрыцця Святых Дзвярэй у базыліцы св.Пятра*

* * *

25 снежня 1999 г. Папа Ян Павел II адчыніў Святыя Дзверы базылікі св.Яна на Латэране ў Рыме. У гэты ж дзень ва ўсіх катэдрах свету біскупы адчынілі Святыя Дзверы, распачаўшы такім чынам Юбілейны Год у партыкулярных Касцёлах.

У Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны гэтую ўрачыстасць правёў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк разам з Апостальскім нунцыем на Беларусі арцыбіскупам Дамінікам Грушоўскім.

*Фотаздымкі Анатоля Клешчука.*
*Фотарэпартаж карэспандэнта з урачыстасці — на 2-й старонцы вокладкі.*









# На дарозе да трэцяга тысячагоддзя

## З булы «Incarnationis mysterium» Святога Айца Яна Паўла II



1. Углядваючыся ў таямніцу Уцелаўлення Божага Сына, Касцёл... неўзабаве пераступіць парог трэцяга тысячагоддзя. Мы асабліва моцна адчуваем у гэты момант, што павінны разам з Апосталам спяваць гімн праслаўлення і ўдзячнасці: «Няхай будзе благаслаўлёны Бог і Айцец Пана нашага, Езуса Хрыста; Ён напоўніў нас усялякім духоўным благаслаўленнем на нябесных вышынях – у Хрысце». (...)

2. Мы стаім на парозе Вялікага Юбілею 2000 Года. Пачынаючы з маёй першай энцыклікі *Redemptor hominis*, я скіроўваю свой позірк на гэтую пераломную дату, раблю гэта выключна дзеля таго, каб схіліць сэрцы ўсіх людзей да пакорлівага падпарадкавання дзеянню Духа Святога. Юбілей будзе святкавацца аднaчасова ў Рыме, а таксама ва ўсіх мясцовых Касцёлах ва ўсім свеце, і ў той жа час будзе сканцэнтраваны,так бы мовіць, вакол двух асяродкаў: горада, які Провід пажадаў зрабіць сталіцаю намесніка Пятра, а таксама Святой Зямлі, у якой Божы Сын нарадзіўся як чалавек, прымаючы цела з Панны, якую звалі Марыя (пар. Лк 1, 27). (...)

Перыяд Юбілею дазваляе нам пазнаць мову выразных знакаў, якімі паслугуецца Божая педагогіка, каб схіліць чалавека да навяртання і пакаяння, якія з'яўляюцца пачаткам і шляхам яго адновы, а таксама ўмоваю вяртання таго, што ўласнымі сіламі ён не мог бы здабыць: прыязнасці Бога, яго ласкі і звышнатуральнага жыцця – таго жыцця, якое толькі і можа задаволіць самыя глыбокія жаданні людскога сэрца. (...)

3. (...) Усе гады падрыхтоўкі да Юбілею былі сканцэнтраваны вакол Святой Тройцы: праз Хрыста – у Духу Святым – да Бога Айца. Шлях веры бярэ пачатак у таямніцы Тройцы і ў ёй знойдзе канчатковую мяжу, калі нашыя вочы нарэшце атрымаюць магчымасць вечнага сузірання Божага аблічча. Урачыста адзначаючы памятку Уцелаўлення, мы пастаянна ўглядаемся ў таямніцу Тройцы. Езус з Назарэту, аб'яўляючы Айца, задавольвае схаванае ў сэрцы кожнага чалавека жаданне пазнання Бога. Тое, што было схаванае ў стварэнні як пячатка творчай рукі Бога і што прарокі Старога Запавету абвяшчалі як абяцанні, было канчаткова аб'яўлена ў асобе Хрыста.

Езус аб'яўляе аблічча Бога Айца, «поўнага літасці і міласэрнасці» (пар. Як 5, 11), а праз спасланне Духа Святога паказвае таямніцу любові Тройцы. Дух Хрыста прысутны і дзейнічае ў Касцёле і ў гісторыі: гэта Яго голас трэба слухаць, каб распазнаваць знакі новых часоў і пастаянна ажыўляць у сэрцах вернікаў чаканне вяртання Хрыста ў хвале. Таму Святы Год павінен быць адным няспынным гімнам праслаўлення Бога ў Тройцы Адзінага. (...)

4. (...) Кожны Юбілейны Год з'яўляецца як бы запрашэннем на вясельную гасціну. Спяшаймася ўсе з розных Касцёлаў і касцёльных супольнасцяў, рассеяных па ўсім свеце, на падрыхтаванае для нас свята; давайце прынясём з сабою тое, што ўжо нас аб'ядноўвае, а позірк, скіраваны толькі на Хрыста, няхай дазволіць нам узрастаць у еднасці, якая з'яўляецца пладом Духа. Біскуп Рыма як Намеснік Пятра з усяе сілы заахвочвае да цэлебравання Юбілею, каб 2000-годдзе асноўнай таямніцы хрысціянскай веры стала часам паяднання і знакам сапраўднай надзеі для ўсіх, хто ўглядаецца ў Хрыста і ў яго Касцёл – сакрамэнт «унутранага аб'яднання з Богам і еднасці ўсяго роду людскога».

5. Святкаванне Юбілею абуджае ўспаміны пра шматлікія гістарычныя падзеі. Вяртаемся ў думках да 1300 года, калі

папа Баніфацый VIII, выконваючы жаданне ўсяго рымскага народу, урачыста распачаў святкаванне першага ў гісторыі Юбілею. Згодна са старажытнай традыцыяй «шчодрага ўдзялення разграшэння і адпустаў» тым, хто ў Вечным Горадзе наведваў базыліку св. Пятра, ён захацеў удзяліць з гэтай нагоды «не толькі яшчэ больш шчодрае, але найбольш поўнае адпушчэнне ўсіх грахоў». З таго часу Касцёл заўсёды святкуе Юбілей як важны этап сваёй вандроўкі да поўні ў Хрысце. (...)

**6.** (...) Нам, веруючым, Юбілейны Год пакажа ўсю глыбіню адкуплення, якое ўчыніў Хрыстус праз сваю смерць і змёртвыхпаўстанне. Пасля гэтай смерці ніхто не можа быць адлучаны ад любові Бога (пар. Рым 8, 21-39), хіба што па ўласнай віне. Ласка міласэрнасці выходзіць насустрач усім, каб усе, што былі паядналіся, маглі таксама атрымаць «збаўленне праз Яго жыццё» (Рым 5, 10).

Таму я пастанаўляю, што *Вялікі Юбілей 2000 Года пачнецца ў ноч Божага Нараджэння 1999 г.* у той момант, калі адчыняцца Святыя Дзверы базылікі св. Пятра ў Ватыкане; гэты акт апярэдзіць на некалькі гадзінаў інаўгурацыйную ўрачыстасць, прадугледжаную ў Ерузалеме і Бэтлееме, а таксама адкрыццё Святых Дзвярэй у іншых патрыярхальных базыліках Рыма. Адкрыццё Святых Дзвярэй ў базыліцы св. Паўла адбудзецца толькі ў аўторак 18 студзеня, на пачатку Тыдня Малітваў аб Еднасці Хрысціянаў, каб такім чынам падкрэсліць асаблівы экуменічны характар гэтага Юбілею.

Апрача таго, я пастанаўляю, што ў мясцовых Касцёлах трэба пачаць святкаванне Юбілею ў святы дзень Нараджэння Пана Езуса, справуючы ўрачыстую Эўхарыстычную літургію на чале з дыяцэзіяльным біскупам у катэдры, а таксама ў конкатэдры. Правядзенне літургіі ў конкатэдры біскуп можа даручыць свайму дэлегату. З улікам таго, што абрад адкрыцця Святых Дзвярэй уласцівы Ватыканскай базыліцы і патрыярхальным базылікам, неабходна, каб падчас інаўгурацыі юбілейнага перыяду ў асобных дыяцэзіях было нададзена асаблівае значэнне *statio* ў касцёле, з якога выйдзе пілігрымка да катэдры; таксама трэба падкрэсліць літургічнае значэнне Кнігі Евангелля і прачытаць выбраныя фрагменты гэтай Булы згодна з указаннямі «Рытуалу святкавання Вялікага Юбілею ў мясцовых Касцёлах».

Божае Нараджэнне 1999 г. няхай будзе для ўсіх радасцю і поўнай зззяння ўрачыстасцю, прадвесцем асабліва глыбокага перажывання ласкі і Божай міласэрнасці, якое будзе працягвацца аж *да заканчэння Юбілейнага Года ў дзень Аб'яўлення Пана нашага Езуса Хрыста, 6 студзеня 2001 г.* Няхай усе вернікі прымуць заклік анёлаў, няспынна ўсклікаючых: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі» (Лк 2, 14). Перыяд Божага Нараджэння стане такім чынам як бы сэрцам Святога Года, які ўнясе ў жыццё Касцёла шчадроты дароў Духа, каб служылі новай евангелізацыі.

**7.** Вопыт святкавання Юбілею ўзбагаціўся на працягу сваёй гісторыі пэўнымі знакамі, якія з'яўляюцца сведчаннем веры і падтрымліваюць рэлігійнасць хрысціянскага люду. Сярод іх трэба назваць перадусім *пілігрымку*. Гэты знак паказвае нам становішча чалавека, жыццё якога часта апісваюць як вандроўку. Ад нараджэння да смерці кожны з нас знаходзіцца ў асаблівым становішчы *homo viator*. Святое Пісанне са свайго боку шматразова падкрэслівае вартасць пілігрымавання ў святыя мясціны (...). Гісторыя Касцёла з'яўляецца жывым летапісам пілігрымкі, якая ніколі не скончыцца. Вельмі шмат вернікаў паглыбляе сваю рэлігійнасць праз вандроўкі, мэтай якіх з'яўляецца горад святых Пятра і Паўла, Святая Зямля ці старыя і новыя санктуарыі, прысвечаныя Марыі і Святым. (...)

Праз чуванне, пост і малітву пілігрым ідзе наперад шляхам хрысціянскай дасканаласці, імкнучыся дайсці з дапамогаю Божай ласкі «да дасканалага чалавека, да меры ўзрастання паводле поўні Хрыстовай» (пар. Эф 4, 13). (...)

**8.** З пілігрымаваннем звязаны таксама знак Святых Дзвярэй, адчынены першы раз у базыліцы Найсвяцейшага Збаўцы на Латэране падчас Юбілею 1423 года. Яны сімвалізуюць пераход ад грэху да ласкі, пераход, да якога пакліканы кожны хрысціянін. Езус сказаў «Я – Брама» (Ян 10, 7), каб паказаць, што ніхто не можа дайсці да Айца інакш, як толькі праз Яго. Факт, што Езус так акрэслівае самога сябе, пацвярджае, што Ён з'яўляецца адзіным Збаўцам, якога паслаў Айцец. Існуе толькі адна Брама, праз якую можна ўвайсці ў жыццё ў камуніі з Богам: гэта Езус – адзіная і канчатковая Дарога збаўлення. Толькі да Яго цалкам можна аднесці словы псальміста: «Гэта брама Пана, праз яе ўвойдуць справядлівыя» (Пс 118, [117], 20).

Указванне на браму нагадвае кожнаму веруючаму, што ён павінен пераступіць яе парог. Прайсці праз гэтую браму – значыць вызнаць, што Езус Хрыстус з'яўляецца Панам і адначасова паглыбіць веру ў Яго, каб жыць новым жыццём, якім Ён нас адарыў. Гэтае рашэнне прадугледжвае, што чалавек мае свабоду выбара і адначасова адвагу ад чаго-небудзь адрачыся, ведаючы, што атрымае Божае жыццё (пар. Мц 13, 44-46). Менавіта ў гэтым духу сам Папа першы пройдзе праз Святыя Дзверы ў ноч з 24 на 25 снежня 1999 года. Пераступаючы іх парог, ён пакажа Касцёлу і свету Святое Евангелле, крыніцу жыцця і надзеі на надыходзячае трэцяе тысячагоддзе. Праз Святыя Дзверы, якія на мяжы тысячагоддзяў будуць сімвалічна большымі, Хрыстус увядзе нас глыбей у Касцёл – сваё Цела і сваю Абранніцу. Гэта дазволіць нам зразумець, якое вялікае багацце змесцу знаходзіцца ў заклiку апостала Пятра, які піша, што, злучаныя з Хрыстом, таксама і мы, «нібы жывыя камяні, будуемся як духоўная святыня, каб быць святым святарствам для складання духоўных ахвяраў, прыемных Богу» (пар. 1 П 2, 5).

**9.** Іншым асаблівым знакам, які добра ведаюць веруючыя, з'яўляецца адпуст – адзін з галоўных элементаў Юбілею. У ім аб'яўляецца паўната міласэрнасці Айца, які выходзіць усім насустрач са сваёй любоўю, якая асаблівым чынам выяўляецца ў адпушчэнні правінаў. У звычайных абставінах Бог Айцец удзяляе сваё прабачэнне праз сакрамэнт пакаяння і паяднання. Бо цяжкі грэх, учынены свядома і дабравольна, аддзяляе веруючага ад жыцця ласкі ў еднасці з Богам і тым самым пазбаўляе яго святасці, да якой ён пакліканы. Касцёл атрымаў ад Хрыста ўладу адпушчэння грахоў у Яго імя (пар. Мц 16, 19; Ян 20, 23), таму ён з'яўляецца ў свеце жывой прысутнасцю любові Бога, які схіляецца над кожнаю людскою слабасцю, каб атуліць яе сваёю міласэрнасцю. Менавіта праз служэнне свайго Касцёла Бог аказвае міласэрнасць свету, удзяляючы яму гэты каштоўны дар, які спрадвеку называецца «адпуст». (...)

Праз адпуст грэшнік, пакаяўшыся, атрымлівае прабачэнне зямнога пакарання за грахі, віна якіх ужо прабачана.

**11.** Гэтыя знакі належаць да традыцыі святкавання Юбілею. Напэўна ж, Божы люд здолее ўбачыць і распазнаць таксама іншыя магчымыя знакі Божай міласэрнасці, якая дзейнічае праз Юбілей. У Апостальскім пасланні *Tertio Millennio adveniente* я назваў некалькі з іх, якія могуць дапамагчы больш глыбока перажываць незвычайную ласку Юбілею. Коратка іх тут нагадаю.

Перш за ўсё знак *ачышчэння памяці*: ён патрабуе ад усіх, каб у акце адвагі і пакоры мы прызналі памылкі тых, што называліся і называюцца хрысціянамі.

Святы Год з'яўляецца па сваёй прыродзе заклікам да навяртання. Прароцтва Езуса пачынаецца менавіта з таго закліка, які звязаны – адметная рыса – з адкрыццём на веру: «Навярайцеся і верце ў Евангелле» (Мк 1, 15). (...)

Як Наступнік Пятра я прашу, каб у гэтым годзе міласэрнасці Касцёл, умацаваны святасцю, якую атрымаў ад свайго Пана, укленчыў перад абліччам Бога і прасіў прабачэння за папярэднія і цяперашнія грахі сваіх дзяцей. Усе зграшылі, і ніхто не можа лічыцца справядлівым перад Богам (пар. 1 Цар 8, 46). Трэба з адвагаю вызнаваць: «мы зграшылі» (Ер 3, 25), але адначасова захоўваць жывое перакананне, што «дзе (...) памножыўся грэх, там яшчэ больш разлілася ласка» (Рым 5, 20).

Сардэчны прыём, які Айцец падрыхтуе тым, хто пакаецца і выйдзе насустрач Яму, будзе заслужанай узнагародаю за пакорнае вызнаванне ўласных і чужых правінаў, якое абапіраецца на ўсведамленні глыбокай сувязі, што яднае паміж сабою ўсіх членаў Містычнага Цела Хрыста. Хрысціяне пакліканыя, каб перад Богам і перад людзьмі, якія пакрыўджаныя іх учынкамі, узяць на сябе цяжар сваіх памылак. Няхай гэта робяць, нічога не жадаючы ў замен, моцныя толькі «любоўю Божай, разлітаю ў нашых сэрцах» (пар. Рым 5, 5). Безумоўна, не забракне таксама людзей, здольных аб'ектыўна прызнаць, што сыны Касцёла таксама зведалі ў мінулым і часта па-ранейшаму цярпяць дыскрымінацыю, несправядлівасць і пераслед.

Няхай на працягу гэтага Юбілейнага Года ніхто не ўхіляецца ад сустрэчы з Айцом. Няхай не паводзіць сябе так, як старэйшы брат з евангельскай прыпавесці,

які не хоча ўвайсці ў дом, каб святкаваць разам з іншымі (пар. Лк 15, 25-30). Радасць прабачэння павінна быць мацнейшая і большая за ўсялякія крыўды. (...)

**12.** Сёння асабліва патрэбным знакам Божай міласэрнасці ёсць любоў, якая адкрывае нам вочы на патрэбы людзей, што жывуць у нястачы і адкінуты на абочыну грамадства. (...)

Трэба пазбавіцца ўсіх формаў насілля, праз якія адны спрабуюць навязаць сваю ўладу іншым, бо яны з'яўляюцца грахом і несправядлівасцю. Хто збірае сабе скарбы толькі на зямлі (пар. Мц 6, 19), «бедны перад Богам» (пар. Лк 12, 21).

Юбілей – гэта неадкладны заклік да навяртання сэрца праз перамену жыцця. Ён нагадвае ўсім, што нельга надаваць абсалютнай каштоўнасці ані зямным дабротам, бо яны не з'яўляюцца Богам, ані людскому панаванню, бо зямля належыць Богу і толькі Яму: «зямля належыць Мне, а вы з'яўляецеся ў мяне прышэльцамі і пасяленцамі» (Лев 25, 23). Няхай гэты год ласкі абудзіць сэрцы тых, у чыіх руках знаходзяцца лёсы народаў!

**13.** Сведчаннем праўды хрысціянскай любові – заўсёды зразумелым, аднак сёння асабліва выразным – з'яўляецца *памяць пра мучанікаў*. Няхай не будзе забыта іх сведчанне. Яны абвяшчалі Евангелле, аддаючы жыццё для любові. Асабліва ў нашую эпоху мучанік з'яўляецца знакам гэтай найбольшай любові, у якой заключаюцца ўсе іншыя вартасці. Яго жыццё – гэта адбітак узнёслых слоў Хрыста, вымаўленых на крыжы: «Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць» (Лк 23, 34). Веруючы чалавек, які сур'ёзна ставіцца да свайго хрысціянскага паклікання, дзе мучаніцтва ёсць магчымасцю, прадказанаю ўжо ў Аб'яўленні, не можа адкінуць гэтую перспектыву з далягляду ўласнага жыцця. На працягу двух тысячагоддзяў ад Нараджэння Хрыста заўсёды прысутнічала сведчанне мучанікаў. (...)

Таму Касцёл усюды на зямлі павінен быць закаранёны ў іх сведчанні і клапатліва ахоўваць памяць пра іх. Каб люд Божы, умацаваны прыкладам гэтых сапраўдных настаўнікаў веры – людзей усіх пакаленняў, моваў і нацыянальнасцяў – пераступіў з даверам парог трэцяга тысячагоддзя. (...)

**14.** Радасць Юбілею не была б поўнай, калі б мы не скіравалі позірк да Той, якая, паказваючы цалкавітую паслухмянасць Айцу, нарадзіла для нас у целе Божага Сына. У Бэтлееме, калі надышоў для Марыі «час нарадзіць» (Лк 2, 6), напоўненая Духам Святым, Яна нарадзіла на свет Першароднае новае стварэнне. Пакліканая, каб быць Божаю Маці, з дня беззаганнага пачацця Марыя ва ўсёй паўнаце перажывала сваё мацярынства, увенчваючы яго прысутнасцю на Кальварыі пад крыжам. Моцаю незвычайнага дару Хрыста Яна сталася там таксама Маці Касцёла і паказвае ўсім дарогу, якая вядзе да Сына. (...)

Няхай Касцёл узвялічвае Бога Айца ў Духу Святым за дар збаўлення ў Хрысце Пану – цяпер і ў наступных стагоддзях.

*У Рыме, у Святога Пятра, 29 лістапада, у першую Нядзелю Адвэнту года Панскага 1998, на дваццаць першым годзе майго Пантыфікату.*

*Ян Павел II, Папа*



# Распараджэнні, якія датычаць атрымання юбілейнага адпусту

Згодна з воляю Святога Айца, выказанай у Буле, якая абвяшчае Вялікі Юбілей 2000 Года, Апостальская Пенітэнцыярыя, дзейнічаючы на правах паўнамоцтваў, дадзеных ёй самім Папам, выдае гэтае распараджэнне, якое рэгулюе атрыманне юбілейнага адпусту.

Усе адпаведна падрыхтаваныя вернікі могуць на працягу ўсяго перыяду Юбілею штодня карыстацца ласкамі з адпусту, падпарадкоўваючыся наступным прадпісанням.







У сувязі з тым, што адпусты, удзеленыя як у агульнай форме, так і на падставе спецыяльнага рэскрыпту застаюцца ў сіле падчас Вялікага Юбілею, трэба нагадаць, што юбілейны адпуст можна ахвяраваць за душы памерлых: такая ахвяра – вельмі каштоўны акт звышнатуральнай міласэрнасці, магчымы дзякуючы сувязі, якая ў Містычным Целе Хрыста яднае вернікаў, пілігрымуючых яшчэ па зямлі, з тымі, хто ўжо скончыў сваю зямную вандроўку. У Юбілейным Годзе застаецца таксама ў сіле правіла, што поўны адпуст можна атрымаць толькі адзін раз на працягу дня.

Увянчаннем Юбілею ёсць сустрэча з Богам Айцом праз пасрэдніцтва Хрыста Збаўцы, прысутнага ў Касцёле асабліва ў сваіх сакрамэнтах. Таму кропкаю адліку і мэтаю ўсяго юбілейнага вопыту, падрыхтаванага праз пілігрымку, павінна быць справаванне сакрамэнтаў пакаяння і Эўхарыстыі – пасхальнай таямніцы Хрыста, які з'яўляецца нашым супакоем і нашым паяднаннем: менавіта гэта сустрэча, якая змяняе нас, дазваляе карыстацца дарам адпусту для сябе і для іншых.

Пасля належнага прыняцця сакрамэнту споведзі, якая згодна з кан. 960 КРК і кан. 720 § 7 KKKW павінна быць у звычайных умовах індывідуальнай і адзінаю споведдзю, вернік, які выканае неабходныя ўмовы, можа атрымліваць альбо ахвяроўваць на працягу большага перыяду дар поўнага адпусту нават штодзённа, не прыступаючы паўторна да споведзі. Аднак варта, каб вернікі часта прымалі ласку сакрамэнту пакаяння, якая дазваляе ісці наперад дарогаю навяртання і чысціні сэрца. Пажадана, каб прыманне Св. Камуніі, неабходнае для атрымання кожнага адпусту, адбывалася ў той жа самы дзень, у які выконваюцца патрэбныя практыкі.

З гэтымі двума асноўнымі элементамі павінна аб'ядноўвацца перш за ўсё сведчанне камуніі з Касцёлам, якое грунтуецца на малітве ў вызначаных Святым Айцом інтэнцыях, і ў сваю чаргу ўчынках міласэрнасці і актах пакаяння, згодна з рэкамендацыямі, пададзенымі ніжэй: яны павінны выяўляць гэтыя сапраўдныя навяртанні сэрца, да якіх вядзе камунія ў сакрамэнце з Хрыстом. Бо гэта Хрыстус ёсць кампенсацыяй і перапрашальнаю ахвяраю за нашыя грахі (пар. 1 Ян 2, 2). Гэта Ён, спасылаючы ў сэрцы вернікаў Духа Святога, які з'яўляецца «адпушчэннем усіх грахоў», вядзе кожнага чалавека да сыноўняй і даверлівай сустрэчы з Айцом міласэрнасці. З гэтай сустрэчы вынікае абавязак навяртання і адновы, умацавання камуніі з Касцёлам і аказвання міласэрнасці братам. На час найбліжэйшага Юбілею пацвярджаецца таксама правіла, якое дазваляе спаведнікам змяняць вызначаныя практыкі і неабходныя ўмовы для тых, хто па абгрунтаваных прычынах не можа іх выканаць. Законнікі і законніцы абавязаны знаходзіцца ў кляўзуры, хворыя, а таксама тыя, хто па якой-небудзь прычыне не можа пакідаць месца жыхарства, змогуць наведаць замест вызначанага касцёла капліцу ва ўласным доме; калі і гэта немагчыма, яны могуць атрымаць адпуст, яднаючыся ду-




















хоўна з усімі, хто звычайным чынам выконвае вызначаныя практыкі, ахвяроўваючы Богу свае малітвы, цярпенні і балючыя выпрабаванні.

Калі размова ідзе пра неабходныя практыкі, вернікі змогуць атрымаць юбілейны адпуст пры наступных умовах:

**1. У Рыме,** калі накіруюцца з пілігрымкаю да адной з патрыархальных базылік, г.зн. **базылікі св. Пятра ў Ватыкане (1)**, **архібазылікі Найсвяцейшага Збаўцы на Латэране (9)**, **базылікі Маці Божай Большай (7) і базылікі св. Паўла пры via Ostiense (5)**, і там будуць пабожна ўдзельнічаць у Св. Імшы альбо ў іншым літургічным набажэнстве, такім, як ютрань ці нешпары альбо ў іншых пабожных абрадах *(напр., Крыжовы Шлях, ружанцовая малітва, рэчытацыя гімну Акафіст у гонар Божай Маці)*; акрамя таго, калі наведаюць разам з іншымі ці індывідуальна адну з патрыархальных базылік і будуць там удзельнічаць нейкі час у эўхарыстычнай адарацыі і ў пабожным разважанні, адгаворваючы напрыканцы «Ойча наш», вызнанне веры ў якой-небудзь зацверджанай форме і малітву да Найсвяцейшай Панны Марыі. Улічваючы асаблівае значэнне Вялікага Юбілею, да чатырох патрыархальных базылік далучаюцца на гэтых жа самых умовах наступныя месцы: **базыліка Святога Ерузалемскага Крыжа (8), базыліка св. Лаўрэнція на Верано (6), санктуарый Марыі Маці Божай Любові (Madonna del Divino Amore) (2,3,4), хрысціянскія Катакомбы (10)**.

**2. У Святой Зямлі,** калі, выконваючы гэтыя самыя ўмовы, наведаюць **базыліку Святога Гробу ў Ерузалеме (12)** альбо **базыліку Нараджэння ў Бэтлееме (13)**, альбо таксама **базыліку Звеставання ў Назарэце (11)**.

**3. Ва ўсіх партыкулярных Касцёлах**, калі адбудуцца пілігрымкі да катэдральнага касцёла альбо да іншых касцёлаў і месцаў, вызначаных ардынарыем, і там прымуць пабожны ўдзел у літургічным набажэнстве альбо ў якім-небудзь іншым пабожным абрадзе, згодна з тым, што сказана вышэй у адносінах да Рыма; акрамя таго, калі наведаюць разам з іншымі альбо індывідуальна катэдральны касцёл альбо санктуарый, вызначаны ардынарыем, і нейкі час прысвецяць пабожным разважанням, адгаворваючы напрыканцы «Ойча наш», вызнанне веры ў якой-небудзь прызнанай форме і малітву да Найсвяцейшай Панны Марыі.

**4. У любым месцы,** калі, не шкадуючы часу, наведаюць братоў, якія церпяць нястачу і цяжкасці (хворых, вязняў, адзінокіх пажылых людзей, інвалідаў і г.д.), накіроўваючыся ў нейкай ступені з пілігрымкаю да Хрыста, прысутнага сярод іх (пар. Мц 25, 34-36) і выконваючы звычайныя духоўныя, сакрамэнтальныя і малітоўныя практыкі. Без сумнення, вернікі захочуць паўтарыць такія візіты на працягу Святога Года, прычым кожны раз яны змогуць атрымаць цалкавіты адпуст, безумоўна, не больш як адзін у дзень.

Юбілейны цалкавіты адпуст можна будзе атрымаць таксама праз дзеянні, якія канкрэтным і бескарысным чынам выяўляюць дух пакаяння, што з'яўляецца як бы самім сэрцам Юбілею. Да такіх дзеянняў належаць, паміж іншага, устрыманне хаця б адзін дзень ад празмернага ўжывання чаго-небудзь (напрыклад, ад палення цыгарэтаў альбо алкагольных напояў), пост альбо ўстрыманне адпаведна агульным нормам Касцёла і асаблівым рэкамендацыям Епіскапатаў, злучаным з перадачай адпаведнай сумы грошай на патрэбы бедным; шчодрая падтрымка спраў рэлігійнага ці сацыяльнага характару (асабліва на карысць пакінутых дзяцей, моладзі, якая змагаецца з праблемамі, старых, якім патрэбная апека, іншаземцаў, якія шукаюць лепшых умоў жыцця ў розных краінах); пасвячэнне значнай часткі вольнага часу для дзейнасці, якая служыць супольнасці, альбо іншыя падобныя формы асабістай ахвяры.

11



12



*Рым, з Апостальскага Пенітэнцыярыя,*
*29 лістапада 1998г.,*
*у першую Нядзелю Адвэнту.*
*Кардынал Вільям Вакефельд Баум*

*Галоўны Пенітэнцыярый*
*† Луіджы дэ Магістрыс*
*Рэгент*

13





# Пасланне біскупаў Рыма-каталіцкага Касцёла Беларусі ў сувязі з пачаткам святкавання Вялікага Юбілею 2000-годдзя хрысціянства

*«Езус Хрыстус –*
*адзіны Збавіцель свету – учора, сёння і навекі»*
Tertio Millennio Adveniente, 40

*Няхай намаганні ўсіх прычыняцца да таго,*
*каб Хрыстус стаў сэрцам свету!*

Паважаныя святары, законнікі і законніцы! Умілаваны люд Божы!

**I.** 24 снежня гэтага года ў вігілію Урачыстасці Нараджэння Пана на чале са Святым Айцом Янам Паўлам II мы распачнём святкаванне Вялікага Юбілею – 2000-годдзя існавання хрысціянства.

2000 год нагадвае нам, што мы адлічваем час паводле гістарычнай падзеі – Нараджэння Хрыста. Бог, становячыся чалавекам, надаў часу непрамінальнае значэнне, а гісторыі чалавецтва – новы сэнс, бо ў ёй выявіліся Божыя каштоўнасці – каштоўнасці Хрыста.

Гэтая падзея мае надзвычай важнае значэнне не толькі для хрысціянаў, «але і непасрэдна для ўсяго чалавецтва, улічваючы першачарговую ролю, якую хрысціянства адыграла на працягу гэтых двух тысячагоддзяў. (...) Прыйсце Хрыста на свет становіцца цэнтральным пунктам найбольш ужыванага сёння календара» (ТМА, 15). Таму Юбілей паўстае як збаўчая падзея ў жыцці Касцёла і свету.

З гэтага вынікае і абавязак адпаведна пражыць Юбілейны Год.

Мэта ўсіх ініцыятываў, звязаных з Юбілеем, – ушанаваць Збавіцеля, а таксама ўпрасіць ласку і міласэрнасць для свету.

Юбілейны Год – гэта час ласкі. Гэта час святой радасці. Гэта магчымасць адчуць звышнатуральныя дары Бога, калі толькі мы захочам супрацоўнічаць з Богам.

**Такім чынам, што мы павінны рабіць?**

**II. Святы Айцец Ян Павел II у Апостальскім пасланні, прысвечаным «НАДЫХОДЗЯЧАМУ ТРЭЦЯМУ ТЫСЯЧАГОДДЗЮ» новай эры, прапануе сем відаў дзейнасці, якія мы пададзім у гэтым лісце вельмі сцісла, уводзячы душпастырскія прадпісанні.**

**1. Умацаваць нашую веру ў Найсвяцейшую Тройцу**, а значыць у Асобу Айца – Стварыцеля Неба і зямлі; у Асобу Сына – Адкупіцеля роду людскога і ў Асобу Духа Святога, які і надалей працягвае справу збаўлення, асвячаючы нас.

Умацоўваючы нашую веру, трэба нанова захапіцца справаю стварэння; падзякаваць за дар Уцелаўлення і за дар Адкуплення, а таксама за дар няспыннага асвячэння кожнага з нас і чалавечай супольнасці.



*У часе пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі*

Толькі надзейнае і сапраўднае хрысціянства з'яўляецца абаронай і ад засілля сектаў, і ад лаіцызацыі, і ад фундаменталізму.

**2. Адчуць збаўчую місію Хрыста.**

Што гэта значыць?

Гэта значыць узяць у рукі Святое Евангелле, разважаць над яго зместам; шукаць формы набліжэння і ўмацавання навукі Хрыста ў сваёй сям'і і ў сем'ях, якія жывуць у нашым асяроддзі; углядвацца ў крыж, змешчаны ў нашых дамах, і разважаць аб значэнні смерці і змёртвыхпаўстання Боскага Настаўніка, якія прынеслі нам прыязнасць, супакой і паяднанне з Богам.

Нам здаецца, што мы ведаем Хрыста як Таго, хто паўстае ў Евангеллі, але ці з'яўляецца Ён спадарожнікам нашага жыццёвага шляху, ці з'яўляецца Тым, хто пабуджае нас да веры, надзеі і любові?

Чалавецтва будзе працягваць сваю гісторыю толькі тады, калі на зямлі з'явяцца новыя людзі, калі сям'я будзе асяроддзем, у якім паўстае новае жыццё, калі яна будзе моцная Богам, калі будзе пастаянна становіцца «хатнім Касцёлам».

**3. Ажывіць усведамленне Касцёла як Містычнага Цела Хрыста,** як супольнасці Бога з людзьмі, як супольнасці, у якой кожны з нас мае сваё месца і адпаведнае заданне.

Фальшывы і негатыўны вобраз Касцёла спрычыняецца да таго, што пасланне Евангелля з цяжкасцю трапляе да сэрцаў і розуму нашых братоў і сясцёр.

Для рэалізацыі сваіх планаў Бог заўсёды паслугоўваўся людзьмі, і мы павінны ўсведамляць гэта. Занепакоеныя такім заклікам, мы можам пытацца: ці зможам ажыццявіць тое, чаго ад нас чакае Бог? Ці падрыхтаваныя мы да гэтага? Ці знойдзем адпаведныя спосабы, каб евангелізаваць нашае асяроддзе? На гэтыя пытанні трэба знайсці адказы. Нельга нам уцякаць ад заданняў, якія з'яўляюцца абавязкам кожнага хрысціяніна!

**4. Зрабіць рахунак сумлення і пазбыцца заняпаданняў** з мэтаю сапраўднага навяртання.

Навяртанне магчыма пры выкананні пяці ўмоваў сакрамэнту Паяднання, сакрамэнту Споведзі.

Для таго, каб вытрываць ў навяртанні, нам дапамагае духоўнае кіраўніцтва, што вядзе пастаянны спаведнік, якога мы папрасілі аказваць нам пастаянную дапамогу ў нашым узрастанні на шляху да хрысціянскай дасканаласці.

**5. Імкнуцца да паяднання** з сёстрамі і братамі ў Касцёле, а таксама з прадстаўнікамі іншых веравызнанняў і нехрысціянскіх супольнасцяў. «Касцёл горача жадае атуліць усіх вернікаў, каб падараваць ім радасць паяднання» (TMA, 6).

Тут патрэбна ўзаемапавага і добразычлівасць, а перадусім трывалая малітва за варожа настроеныя бакі, дапамога і супрацоўніцтва ў розных дабрачынных ініцыятывах і ў асаблівых момантах жыцця як кожнай асобы, так і грамадскай групы, а таксама памяць аб экуменізме мучанікаў.

Трэба прызнаць, што сучасны крызіс веры часткова выкліканы самымі хрысціянамі, якія мала моляцца і не ўмеюць навучыць іншых малітве. У той жа час, шмат жыхароў Беларусі прыходзіць у Касцёл і просіць, каб іх навучылі маліцца. Яны паступаюць добра. Іншыя, на жаль, шукаюць запаўнення ўнутранай пусткі ў сектах.

Кожная хрысціянская супольнасць паклікана свядома звярнуцца да будучыні і да канкрэтных крокаў у накірунку камуніі і еднасці, каб адказаць на малітву Хрыста: «Ойча, няхай будуць усе адно» (Ян 17, 21). Свет не верыць, бо мы не з'яўляемся адзінствам, бо часта нам не хапае мужнасці для дыялогу, спалучанага з сапраўдным сведчаннем аб Праўдзе.

Паяднанне ж паміж варагуючымі дзяржавамі будзе магчымым толькі тады, калі дойдзе да новага навяртання да Бога і да адказнасці перад Ім.

**6. Прыняць усю навуку II Ватыканскага Сабору,** набліжаную таксама праз Катэхізіс Каталіцкага Касцёла.

У гэтым большай часткі вернікаў Беларусі дапамогуць пастановы Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі; усім жа астатнім – казанні, катэхеза, каталіцкія часопісы і, дай Божа, каб таксама радыё і тэлебачанне.

**7. Міжнародная супольнасць няхай прыме рашэнні і захады, скіраваныя на прабачэнне і велікадушнае дараванне даўгоў або іх змяншэнне.**

У маштабе нашай дзяржавы, у асобных дыяцэзіях ёсць вялікае поле для дзейнасці касцёльнага «Caritasu».

**III.** Урачыстае святкаванне Юбілею – гэта непаўторная магчымасць, для таго, каб сучасны чалавек, скіроўваючы позірк на Хрыста, знайшоў падтрымку і спаўненне сваіх спадзяванняў агульначалавечага вымярэння.

Сёння сярод маладога пакалення шырыцца сімптом стомленасці, апатыі, безыдэйнасці, пасіўнага падпарадкавання міфу грошай і спажывецкай філасофіі. Гэта непакоіць.

Хрысціяне павінны быць адкрытымі на дабро, але адначасова павінны быць вельмі крытычнымі да з'яваў, якія адбываюцца ў сучасным свеце: не ўсе ідэалогіі добрыя, не ўсе эканамічныя, гаспадарчыя сістэмы добрыя, не ўсе рэлігіі аднолькавыя і добрыя.

«Еўропа патрабуе нас усіх, салідарна сабраных вакол Крыжа і Евангелля. Мы павінны разважліва ўспрымаць знакі часу. Езус Хрыстус чакае ад усіх нас сведчання веры» (Ян Павел II, Вроцлаў, 31 мая 1997).

Касцёл на Беларусі імкнецца і надалей быць адкрытым на найважнейшыя праблемы Еўропы. Хоча пра іх разважаць ва ўсім Касцёле, у сустрэчы з Асобай і Пасланнем Езуса Хрыста, каб Еўропа магла знайсці сваю самабытнасць і не згубіла з гарызонту думак і дзейнасці тых каштоўнасцяў, якім абавязана ўзнікненнем, развіццём і значэннем ў гісторыі.

Касцёл на Беларусі імкнецца і надалей чэрпаць натхненне з хрысціянскіх каштоўнасцяў, у якіх знаходзяцца яго самыя глыбокія і сапраўдныя карані.

**IV.** Задумаемся, якім чынам мы можам уласным жыццём адказаць на заклікі Святога Айца Яна Паўла II?

Дапамогуць нам у гэтым набажэнствы, кангрэсы, сімпозіумы, казанні, катэхеза, пілігрымкі да мясцінаў, дзе можна будзе атрымаць юбілейны адпуст і іншыя душпастырскія паслугі, прадугледжаныя ў Календары Юбілейнага Года, зацверджаным Канферэнцыяй Біскупаў Беларусі.

Святкаванні Юбілею будуць публічным сведчаннем веры і надзеі ўсіх нас, таму прымем у іх удзел. Няхай гэтае сведчанне будзе як сяброўская рука, працягнутая тым, хто страціў надзею і нават не верыць у лепшую будучыню. Узбуджайма ініцыятыву і перамагайма праявы апатыі, пасіўнасці і эгаізму асобнага чалавека і ўсёй супольнасці.

Логіка Юбілейнага Года не з'яўляецца чыста людской логікай. Перад веліччу заданняў трэба адважыцца на акт веры і даверу да Настаўніка, як гэта зрабіў святы Пётр: «...але на Тваё слова закіну сеці» (Лк 5, 6).

Святкаванне Юбілейнага Года аддаем у апеку Найсвяцейшай Маці Будслаўскай, а таксама святому Арханёлу Міхалу, Апекуну нашай Мітраполіі, і ўсім жыхарам Беларусі ад усяго сэрца ўдзяляем благаславенне.

*† Кардынал Казімір Свёнтэк,*
*а таксама біскупы, прысутныя*
*на Канферэнцыі 4 лістапада 1999 г.*



# «Адчыніце дзверы Хрысту»

**1. Што такое Юбілей?**

*Юбілей – гэта:*

*– год духоўнага адраджэння;*

*– год сустрэчы кожнага з нас з Хрыстом;*

*– год шчодрай любові Божай і любові да Бога і бліжніх.*

Гэта запрашэнне да больш глыбокага асэнсавання Увасаблення Сына Божага.

Памятай, што Бог любіць цябе, бо з любові да цябе 2000 гадоў таму Езус стаў чалавекам. Таму не забывай, што і ты павінен любіць іншага чалавека так, як Хрыстус нас палюбіў: *«Вось жа ўсё, што хочаце, каб вам рабілі людзі, дык тое рабіце і вы ім»* (Мц 7, 12).

Кожны чалавек падчас Юбілейнай гадавіны Нараджэння Езуса пакліканы да разважання пра таго Бога, які ёсць Любоў. (...)

Ты – хрысціянін, паслядоўнік Хрыста, ці зможаш знайсці хвіліну ўнутранай сцішанасці, каб задаць сабе пытанне пра сэнс гэтай падзеі?

**2. Чаму 2000 год — юбілейны?**

*«Варты ўвагі той факт, што адлік часу вядзецца амаль паўсюль ад прыходу ў свет Хрыста».*

*«На парозе новага тысячагоддзя хрысціяне павінны з пакораю стаць перад Панам, каб задумацца над адказнасцю за розныя праявы зла ў сённяшнім свеце».*

Як разважаць у эпоху электронікі аб чалавечым грамадстве ў сусветным маштабе?

А якое сведчанне хрысціянаў на сённяшні дзень?




«Юбілей павінен сцвердзіць у сённяшніх хрысціянах веру ў Бога, які аб'явіўся ў Хрысце, умацаваць надзею, якая выяўляецца ў чаканні вечнага жыцця, ажывіць любоў справамі, што служаць бліжнім».

Лёгка скардзіцца на зло, якое існуе ў свеце, але што асабіста ты робіш, каб перамагала дабро?

*Юбілей – гэта магчымасць, якую табе дае Езус, каб ты абнавіў сваё жыццё і тым самым даваў сведчанне веры.*

**3. Значэнне юбілейнай эмблемы**

Эмблема добра адлюстроўвае глабалізацыю хрысціянскага пасланніцтва: цэнтральная частка блакітнага колеру ўяўляе сабой Зямлю, над якой узвышаецца крыж. Пяць рознакаляровых галубоў, сімвалізуюць пяць кантынентаў. Крыж выпраменьвае святло – сімвал Хрыста – праўдзівае Святло свету, на гэта таксама ўказваюць словы **Christus heri, hodie, semper – Хрыстус учора, сёння, заўсёды.**

Перапляценне галубоў паміж сабою азначае духоўнае адзінства дзяцей Божых і прымірэнне паміж народамі.

Крыж нагадвае нам пра тое, што Хрыстус памёр дзеля выратавання ўсіх людзей, а тры рознакаляровыя лініі, якія ўтвараюць Крыж, сімвалізуюць таямніцу Найсвяцейшай Тройцы.

**4. Як хрысціянін святкуе Юбілей?**

*У юбілейны год хрысціяне яшчэ раз прымаюць з верай і замілаваннем любоў Айца, які Сына свайго даў, «каб усякі, хто верує ў Яго, не згінуў, але меў жыццё вечнае» (пар. Ян 3, 16).*

**Неабходна:**

**1.** *Для чалавека ахрышчанага – паглыбленае разважанне над сваім жыццём*

– Што я раблю са сваім жыццём?

– Наколькі я жыву? Ці лічу сябе хрысціянінам?

– Ці сапраўды ім з'яўляюся?

– Ці жывая мая вера?

– Як стаўлюся да іншага чалавека?

– Ці задумваюся над словамі Евангелля: «Бо якая карысць чалавеку здабыць увесь свет, а сябе самога загубіць ці пашкодзіць сабе?» (пар. Лк 9, 25).

**2.** *Шчыры жаль за грахі*

Бога немагчыма абмануць. Кожнаму ёсць аб чым шкадаваць: «Радасць кожнага Юбі-

лею з'яўляецца асаблівую радасцю, якая выходзіць з прабачэння грахоў, радасцю пакаяння».

«Так кажу вам: бывае радасць у анёлаў Божых з аднаго грэшніка, які каецца» (пар. Лк 15, 10).

**3.** *Глыбокая пастанова выправіцца*

«Устану, пайду да айца майго...» (Лк 15, 18). У адказ на заклікі: «пакайцеся і верце ў Евангелле» (Мк 1, 15). «Прыйдзіце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжараныя, і Я супакою вас» (Мц 11, 28).

**5. Дар Юбілейнага Года – адпуст**

*Адпуст – гэта частковае альбо поўнае дараванне кары за ўжо адпушчаныя грахі. Згодна з указаннямі, устаноўленымі ў Буле, якая аб'яўляе Год Святым, ёсць наступныя ўмовы атрымання адпусту:*

**1.** Споведзь і Св. Камунія – таямніцы, якія з'яўляюцца сапраўдным заспакаеннем і умацаваннем сэрца.

**2.** Пілігрымка – «усё хрысціянскае жыццё — гэта пілігрымка ў дом Айца».

**3.** Малітвы – «Веру», «Ойча наш», «Вітай, Марыя», «Хвала Айцу» – за Папу Рымскага.

**4.** Наведванне аднаго з касцёлаў

**у Пінскай дыяцэзіі:**
*у Пінску (катэдра), Лагішыне, Брэсце (Узвышэння Св.Крыжа), Мазыры.*

**У Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі:**
*у Мінску (архікатэдра), Магілёве, Будславе, Нясвіжы.*

**у Гродзенскай дыяцэзіі:**
*у Гродне (катэдра), Тракелях, Гудагаі, Наваградку (Фара).*

**у Віцебскай дыяцэзіі:**
*у Віцебску, Браславе, Мосары.*

**5.** Дабрачынная дзейнасць у дачыненні да хворых, адзінокіх, зняволеных, моладзі і ўсіх тых, каму патрэбна дапамога бліжняга.

**6. Гісторыя юбілеяў**

*Каталіцкі Касцёл існуе ўжо 2000 гадоў.*

Святы Год адзначаецца ў Касцёле кожныя 25 гадоў. Юбілей 2000 Года аб'яўлены Булай Яна Паўла II «Incarnationis Mysterium». Ён распачаўся 24 снежня 1999 года адкрыццём Папам Святых Дзвярэй у базыліцы св.Пятра ў Рыме. Адначасова былі адчыненыя Святыя Дзверы яшчэ ў трох патрыярхальных базыліках Рыму. Сімвалам гэтай цырымоніі з'яўляюцца словы Езуса Хрыста: «Я — Брама...».

У катэдрах усяго свету адбыліся ўрачыстыя літургіі на распачацце Юбілею.

**Пасланне Вялікага Юбілею 2000 Года**

*Мэта Юбілею – ажыўленне веры і сведчання хрысціянаў.*

Гэта настойлівы заклік да ўсіх

**1.** Лепш пазнаць Айца, Сына і Духа Святога, разам з Марыяй – Маці Збаўцы. Немагчыма любіць таго, каго не ведаеш. Таму неабходна:

а) чытаць Святое Пісанне: «Хрысціяне павінны з новым жаданнем вывучаць Біблію»;

б) вывучаць Катэхізіс Касцёла;

в) удзельнічаць у Літургіі.

**2.** Сведчыць аб веры:

а) з хрысціянскай адданасцю ў асабістым, сямейным, грамадскім, прафесійным, касцёльным жыцці;

б) здзяйсняючы ўчынкі міласэрнасці;

в) ахвяруючы Богу ўласныя цярпенні, яднаючы іх са збаўчай ахвярай Крыжа.

## Каляндар святкавання Вялікага Юбілею 2000-годдзя хрысціянства Каталіцкім Касцёлам на Беларусі

*Адкрыццё Вялікага Юбілею на Беларусі распачалося ў чатырох катэдральных касцёлах – у Мінску, Гродне, Пінску і Віцебску Святой Імшой 25 снежня а 14-й гадзіне і ўручэннем дэлегацыям парафіяў юбілейных крыжоў.*

**22-23.01.2000** – Мінск – Экуменічны сімпозіум.
**26.03.2000** – Пінск – падзяка Богу за дар новай арганізацыі Касцёла на Беларусі.
**16.05.2000** – Урачыстасць св.Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.
**23.06-24.06.2000** – Гродна – Эўхарыстычны Кангрэс.
**02.07.2000** – Будслаў – Марыялагічны Кангрэс.
**29.07-30.07.2000** – Брэст – Кангрэс сем'яў.
**25.08-27.08.2000** – Гродна – сустрэча моладзі.
**06.01.2001** – завяршэнне святкавання Вялікага Юбілею 2000-годдзя хрысціянства.







Кс. Эдвард СТАНЕК

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## ШОСТАЯ ЗАПАВЕДЗЬ

### Не чужалож

***У мінулым нумары «Ave Maria» быў змешчаны пачатак развагаў ксяндза Эдварда Станека, якія датычаць шостай запаведзі Дэкалогу: «У абарону вернасці» і «Пажадлівасць — гэта Божы дар».***

***У гэтым нумары — працяг развагаў святара на тэму сужэнскай вернасці і Божага права, якое стаіць на варце сям'і і сужэнства.***

**Стасункі перад сужэнствам**

Я звяртаў ужо вашу ўвагу на тое, што заклік «не чужалож» стаіць на варце адказнасці чалавека за сябе і за іншую асобу, стаіць на варце годнасці мужчыны і жанчыны. Цяпер, у чарговых развагах, хачу разгледзець некалькі канкрэтных праблемаў, звязаных з шостаю запаведдзю.

Першая з іх. Запаведзь забараняе дашлюбныя стасункі, паколькі паўната сексуальнага спаткання мужчыны і жанчыны можа быць толькі ў межах сужэнства. Кожнае спатканне па-за сужэнствам — чужалоства.

Такая пазіцыя выклікае сёння незвычайна вострую крытыку. Касцёл папракаецца ў непрагрэсіўнасці, у неталерантнасці, у тым, што не ідзе ў нагу з часам. Гэта крытыка ўздымаецца ва ўсім свеце. Дастаткова прагледзець прэсу, паглядзець фільмы, паслухаць радыё, каб пераканацца, што тыя, хто атакуе, не выбіраюць сродкаў. Таму варта зазначыць, што тут існуе непаразуменне, бо не Касцёл устанавіў запаведзь «не чужалож», а сам Бог. Такім чынам, людзі вымагаюць змены Божага права, а на гэта Касцёл не мае аніякага права. Усе аргументы, якія звычайна прыводзяцца, напрыклад, што 80% людзей з ложка ідзе да алтара, а не ад алтара ў ложак, не зменяць таго, што Бог кажа: «не чужалож». Хоць бы 100% людзей не захоўвала Божага права, Касцёл павінен гэтае права абвяшчаць, хоча ці не хоча — павінен, бо гэта закон Бога. Касцёл можа змяніць свае ўласныя законы, напрыклад, мог бы дазволіць пасвячаць жанатых мужчын, бо гэта касцёльнае права, але ён ніколі не можа змяніць Божага права. У дыскусіях на гэтыя тэмы прашу памятаць, што такога кшталту прэтэнзіі б'юць не па Касцёле і не па святарах, а мецяць у самога Бога як найвышэйшага Заканадаўцу.

Часта даводзіцца сустракацца з меркаваннем, што калі ўжо так ёсць, то прынамсі ксёндз не павінен гаварыць пра гэта, каб не нерваваць людзей, бо яны не хочуць гэтага чуць. Таму хацелася б зазначыць, што ксёндз не можа кіравацца тым, што хочуць чуць людзі, ён павінен сказаць тое, што яму наказвае Бог. А як людзі ўспрымуць гэта, не яго справа, бо яны слухаюць не святарскую запаведзь, а Божую, святар жа з'яўляецца толькі праваднікам Божай волі. І замест таго, каб бунтаваць з тае прычыны, што Божыя запаведзі занадта суровыя, трэба падысці да Бога і запытаць, чаму Ён стаіць на такой цвёрдай пазіцыі.

Бог дбае пра тое, каб сужэнства будавалася на моцна ўгрунтаванай любові. Любоў — функцыя духу, таму найважнейшы элемент любові — паяднанне двух сэрцаў і інтэлектаў, а паяднанне целаў — толькі вынік гэтага. Калі хтосьці распачне з паяднання целаў, то ніколі не здолее адкрыць характва, бляску і багацця сапраўднай любові.

Таму час да шлюбу павінен быць успрыняты таксама як час дарастання да вялікай, сапраўднай любові. Свет, у якім мы жывем, звёў любоў толькі і выключна да паяднання целаў. Тое, што даводзіцца назіраць амаль на кожным кроку на вуліцы ці ў грамадскім транспарце — гэта маніфестацыя свабоды менавіта ў такім сэнсе. Маладыя людзі сцвярджаюць, што гэта любоў, але такая любоў не мае нічога агульнага з сапраўдным пачуццём. Сапраўдная любоў вымагае далікатнасці, з'яўляецца святасцю, і ніхто не будзе яе афішаваць на вуліцы.

Другі аргумент у падтрымку таго, каб не распачынаць стасункаў да шлюбу, — гэта годнасць жанчыны. Жанчына пры першым стасунку аддае не толькі цела, але аддае ўсю сябе. Гэта жэст яе поўнага даверу. Калі пасля яе пакідаюць, яна адчувае сябе пакрыўджанаю, губляе давер не толькі да таго чалавека, які яе пакінуў, але да людзей увогуле. Вяртанне даверу — рэч вельмі складаная, а жыццё без даверу — суцэльны жах. Жанчына можа адпаведна развівацца толькі тады, калі мае ў кімсьці апору, калі здольна паверыць. Сужэнства ў вялікай ступені гарантуе гэты давер; мужчына публічна абвяшчае, што да канца жыцця хоча быць ёй верны.

Наколькі мужчына прычыняе вялікую крыўду жанчыне, калі дамагаецца яе да жаніцьбы, знішчаючы годнасць і давер жанчыны, настолькі яна прычыняе крыўду свайму абранніку, згаджаючыся на стасункі да замуства, адмаўляючыся ад выхавання ягонай пяшчотнасці. У чым тут справа? У любові пяшчотнасць у сто разоў важнейшая за секс, а мужчына патрабуе шмат часу, каб развіць і выхаваць у сабе гэтую пяшчотнасць. Пяшчота — гэта цяпло, якім чалавек атуляе іншую асобу. Жанчыны па сваёй прыродзе настроеныя на ўспрыманне любові ў катэгорыях пяшчотнасці. Мужчына больш настроены на секс, яму патрэбны час, каб адкрыць каштоўнасць пяшчоты. Усё сямейнае жыццё грунтуецца на пяшчотнай любові. Дзецям не патрэбны секс, дзецям патрэбна пяшчота, яны чакаюць цяпла, у якім можна расці. Пазбаўленыя пяшчотнасці бацька ці маці не могуць быць добрымі бацькамі. Час перад шлюбам — гэта час дасканалення і выхавання гэтай вялікай каштоўнасці. Калі жанчына не дапаможа мужчыну ў выхаванні пяшчотнасці, то не раз у жыцці будзе плакаць ад абыякавасці свайго мужа.

Паўната стасункаў паміж мужчынам і жанчынаю ўгрунтавана на адказнасці. Адказнасць залежыць ад моцнай волі. Калі хтосьці мае слабую волю, то яму нельга верыць, бо ў кожную хвіліну такі чалавек можа падвесці. Пажадлівасць — гэта магутная сіла, якая ўздзейнічае на волю. Калі воля здолее падпарадкаваць гэтую сілу, то тады здасць экзамен на сваю адказнасць. Пра веліч і адказнасць чалавека ў вялікай ступені сведчыць сіла яго волі.

Тут мы закранаем галоўную крыніцу нараканняў, якія я прывёў напачатку. Сённяшні свет не дбае пра моцную волю, ён лічыць, што свабода заключаецца ў магчымасці рабіць тое, што падабаецца. Тым часам так зразуметая свабода — гэта няволя. Толькі чалавек моцнай волі па-сапраўднаму вольны. Чалавек слабой волі — заўсёды нявольнік. Нядаўна я сустрэў семнаццацігадовага хлопца, перакананага ў тым, што мае моцную волю і можа рабіць усё, што хоча. Абураны на мяне з-за маіх лёгкіх кпінаў у адрас гэтай яго свабоды, ён паставіў даказаць мне, што мае моцную волю, просячы ўказаць яму спосаб, якім можа гэта ўчыніць. Я запытаў у яго, ці паліць ён цыгарэты. Пачуўшы станоўчы адказ, я папрасіў яго аддаць мне цыгарэты і тыдзень не паліць, а пасля прыйсці на размову. Гэта было а 14-ай гадзіне. А вечарам таго ж дня ён прыйшоў і сказаў: «Ведаеце, я не змагу». Ён шмат разоў спрабаваў кінуць паліць, а праз два месяцы адкінуў намер даказаць, што мае моцную волю.

Калі чалавек не здольны адмовіцца ад цыгарэты, то не трэба здзіўляцца, што ён не здольны адмовіцца ад дашлюбных стасункаў. Бо сіла прыроджанай пажадлівасці нашмат большая, чым нікацінавы голад. Гэта важны момант.

Час перад сужэнствам, у якім чалавек павінен ацаніць ступень адказнасці іншай асобы ці не намаганні захаваць сексуальную стрыманасць, дазваляе зразумець, наколькі моцная наша воля і наколькі мы можам давярыцца іншаму чалавеку.

**Кантрацэпцыя**

У нашых развагах над шостаю запаведдзю я хацеў бы спыніцца на вельмі спрэчнай тэме. Маю на ўвазе адносіны Бога да кантрацэпцыі. Не адносіны Касцёла, бо гэта не касцёльнае права, а Божае. На першы погляд гэта праблема не вяжацца з запаведдзю «не чужалож». У Дэкалогу не сказана: «не ўжывай кантрацэптыўных сродкаў». Хтосьці можа абмежаваць запаведзь Дэкалогу да сцвярджэння: калі я жыву ў сужэнстве, то магу рабіць усё, што мне падабаецца, бо не чужаложу. Аднак, калі прыглядзецца бліжэй да гэтай праблемы, то відаць, што яна датычыць парушэння Божага права, упісанага ў чалавечае цела, дакладней, у чалавека як у асобу. Можа менавіта таму, што сучасны чалавек не бачыць граху ў парушэнні законаў прыроды, яму цяжка зразумець Божы погляд на кантрацэпцыю.

У другім разважанні я ясна падкрэсліваў, што Пан Бог у сваім стваральным акце паяднаў між сабою два элементы: дар даваць жыццё і прыемнасць. Чалавек жа ад вякоў (гэта праблема старая як свет) спрабуе гэтыя два элементы раздзяляць, г.зн. хоча атрымаць прыемнасць, выключаючы магчымасць даць жыццё дзіцяці. Пазіцыя чалавека ў гэтым выпадку звязана з павагаю да ўсялякіх законаў, якія ўстанавіў Бог. Часцей за ўсё мы маем на ўвазе законы маральнага характару: «не забівай», «не чужалож», «не крадзі...», тым часам Пан Бог устанавіў законы, якія кіруюць усім створаным Ім светам, г.зн. законы фізікі, хіміі, астраноміі, біялогіі. Чалавек не можа ігнараваць гэтыя законы, ён можа іх адкрыць і выкарыстаць. Наша пакаленне робіць вялікую памылку, ігнаруючы законы, устаноўленыя Богам. Мы іх адкрываем, мы імі захапляемся і разам з тым з імі не лічымся. Напрыклад, мы сведкі знішчэння нашага прыроднага асяроддзя. Амаль ніхто не шануе вады, паветра, зямлі, лясоў, мора. Мы сведкі абсалютнага ігнаравання законаў, якія ўстанавіў Бог, і ў гэтым кантэксце трэба таксама зірнуць на закон перадачы жыцця, які так дакладна і тонка запраграмаваў Бог.

Кантрацэпцыя — гэта спецыфічнае забруджванне найбольш ураджайнай часткі зямлі, якою ёсць цела жанчыны. Гэта ператварэнне ў сметнік найпрыгажэйшай крыніцы, з якой выплывае чалавек. У асноўным адказнасць за кантрацэпцыю нясуць мужчыны. Жанчына бароніцца, каб не быць сметнікам, каб не насіць у сабе смеццяў: розных мазяў, спружынак, укладак. Яна ведае, што яе цела — калыска для жыцця, а не кош для смецця.

Калі яна згаджаецца на кантрацэпцыю, то часцей за ўсё робіць гэта пад націскам мужчыны. Таму адказнасць за прымяненне кантрацэптыўных сродкаў у значнай ступені кладзецца на мужчыну. Кантрацэпцыя як ігнараванне Божага права праз спробу атрымаць прыемнасць без давання жыцця — гэта зло.

Аднак адсюль вынікае, што кожнае сужэнскае спатканне мужчыны з жанчынаю павінна даваць новае жыццё. Бо сам Бог так запланаваў цела жанчыны, што ёсць у ім дні ўраджайныя — плодныя, і дні неўраджайныя. Намаганне, да якога Касцёл заклікае сучасную навуку, павінна ісці, між іншым, у гэтым кірунку, каб засвоіць метад, які лёгкім і пэўным спосабам дазволіць жанчыне ведаць, плоднае ў гэты дзень яе цела ці не. (...) Калі б мы замест вялікіх затратаў на кантрацэптыўныя сродкі ўдасканалілі метад распазнавання плодных дзён так, каб жанчына з абсалютнаю ўпэўненасцю магла сказаць, які ў да-

дзены момант стан яе цела, тады ўсё б залежала ўжо толькі ад моцнай волі. Урэшце існуе адзін сродак панавання над пладнасцю — гэта моцная воля, якая шануе цыкл пладнасці, упісаны ў цела жанчыны. Такі падыход — гэта знак павагі да таго, што стварыў Бог, і заклік да ўзаемнай пашаны мужчыны да жанчыны і жанчыны да мужчыны.

У гэтым кантэксце хацелася б звярнуць увагу на тое, што сучасныя кантрацэптыўныя сродкі, якія прымяняюцца ва ўсім свеце, шкодныя для здароўя маці, а нярэдка і дзіцяці. Частка з іх скіравана на знішчэнне ўжо зачатага дзіцяці ў першыя дні альбо тыдні ягонага жыцця, а таму мы маем справу з забойствам. Ёсць дакументы, якія выразна сведчаць пра цэлы шэраг жаночых захворванняў, выкліканых кантрацэпцыяй. Аднойчы нядаўна мне давялося мець драматычную размову з дваццацівасьмігадовым мужчынам, які ў роспачы праклінаў дзень, калі намовіў сваю жонку паставіць спіраль. Аказалася, што адбылося нейкае ўнутранае пашкоджанне і ў выніку з'явілася пухліна. Жонка памерла. «Такую цудоўную жанчыну я сам давёў да магілы. Я ж усведамляю, што яна была абсалютна здаровая. Гэта мая віна». Ці можа гэты чалавек яшчэ быць шчаслівы ў жыцці?

У заходніх краінах вялікі працэнт маладых жанчын пакутуе на ракавыя захворванні жаночых органаў. Даследванні паказалі, што ў вялікай ступені гэта дочкі тых жанчын, якія прымянялі адзін з модных у свой час кантрацэптыўных сродкаў. Маці нічога не сталася, а дачка паміраe ад рака. Гэта вынік ужо ў першым пакаленні. У генетычнай галіне наступствы праяўляюцца толькі ў трэцім ці нават у пятым пакаленні. А што выявіцца ў пятым пакаленні?

Бог бачыць будучыню. Мы бачым толькі сённяшні дзень. Бог клапоціцца пра наступныя пакаленні.

Мудрасць вымагае таго, каб мы складалі ахвяру для свайго дзіцяці, унука, праўнука. Не думайце, што Касцёл, баронячы Божае права, хоча ўскладніць вам жыццё. Не, тут гаворка пра вялікае дабро, пра ваша шчасце, пра тое, каб вы маглі ўсміхнуцца свайму ўнуку. Нельга быць шчаслівым чалавекам, ведаючы, што калецтва дзіцяці, унука ці праўнука — гэта вынік прымянення кантрацэптыўных сродкаў. Тут гаворка пра перспектыву, у выніку — пра вернасць Божаму замыслу, у якім найбольш поўна заключана дабро чалавека.

Уздымаючы гэтыя канкрэтныя і складаныя пытанні, я паказваю Бога, які ў імя вялікай любові і з клопатам пра наша дабро ставіць пэўныя патрабаванні. Не хачу, каб вы ўспрымалі ўсё як забарону. Да пэўных рэчаў трэба доўга дарастаць. Першая ўмова такога дарастання — гэта здольнасць убачыць, якія вялікія каштоўнасці тут маюцца на ўвазе. Многія не хочуць нават слухаць такіх развагаў, зыходзячы з таго, што калі будуць гэта ведаць, то трэба будзе тым кіравацца, а гэта абмяжуе іхнюю свабоду. Тым часам Бог хоча перадусім нас пераканаць, і толькі апошнім аргументам, які Ён выкарыстоўвае, з'яўляецца ўдар.

Гэтак як добры бацька, Бог заўсёды хоча пераканаць сваё дзіця і радуецца, калі яно пачынае разумець, што гэта адзіны шлях, які вядзе да сапраўднага шчасця. Бог проста хоча растлумачыць нам многія рэчы, звязаныя з зямным жыццём, але на перакананне патрэбны час і цярплівасць.

Не хацелася б, каб вы ўспрынялі гэтыя развагі як патрабаванні, якія пераўзыходзяць вашыя магчымасці. З пэўнымі праблемамі трэба змагацца, часам патрэбны доўгія гады паступовага дарастання перш, чым чалавек пераканаецца ў многіх каштоўнасцях. Бог ведае пра гэта і таму ўстанавіў сакрамант пакаяння як дапамогу дарастання да поўнай павагі і любові да Божага права. Трэба, каб мы паступова адкрывалі, як шмат мудрасці, дабрыні і любові ёсць у канкрэтных патрабаваннях, якія ставіць нам Пан Бог. Гэта датычыць нашага дабра і дабра наступных пакаленняў. Гэта датычыць нашай унутранай перамогі, шчасця і свабоды. Ці здолеем мы сёння сягнуць па гэтыя каштоўнасці, ці зможам зрабіць гэта толькі праз пятнаццаць гадоў — справа іншая. Пазнанне Божага замыслу і яго рэалізацыя — дзве розныя рэчы. Аднак няма рэалізацыі без грунтоўнага пазнання. Бог рознымі спосабамі нас вучыць. Гаворка пра тое, каб Ён не мусіў нас вучыць пры дапамозе нашых уласных вельмі балючых памылак.

*Працяг будзе.*

*Пачатак у №№ 1-2, 3-4, 5-6, 8-9, 10-12 за 1998 г. і ў №№ 1-2, 5-6, 8-9 за 1999 г.*

*Пераклад Крысціны ЛЯЛЬКО.*



# Гістарычная падзея

***«...Па прадстаўленні біскупа-мітрапаліта, найдастойнейшага кардынала Казіміра Свёнтка, Папа Ян Павел II пастанаўляе стварыць новую Віцебскую дыяцэзію з касцёлам св. Барбары як катэдральным касцёлам...»***



Нязвыклая гэта з'ява — воплескі ў святыні. І ўсё ж 20 лістапада 1999 года яны прагучалі некалькі разоў у віцебскім касцёле св. Барбары. Ужо не проста ў касцёле, але ў катэдры. Воплескамі вернікі сустрэлі паведамленне нунцыя Апостальскай Сталіцы Дамініка Грушоўскага пра гістарычную падзею — абвяшчэнне Віцебскай дыяцэзіі. 13 кастрычніка 1999 года Апостальская Сталіца ў сваёй пастанове аб'яднала касцёлы Віцебшчыны ў асобную дыяцэзію. Першым біскупам новай дыяцэзіі прызначаны ксёндз Уладыслаў Блін.

У часе ўрачыстасці пасвячэння ксяндза Уладыслава на біскупа Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі сказаў:

— Новы віцебскі біскуп павінен шукаць сваіх авечак, каб сабраць іх разам, павінен насычаць іх праўдай Евангелля Хрыста, навукай Касцёла. Няхай ён будзе для іх прыкладам пасвячэння ў сваім штодзённым ахвярапрынашэнні, няхай кіруе ўсімі як пастыр па прыкладу Хрыста. Дарагі брат Уладыслаў, Касцёл цябе выбраў і прызначыў біскупам. Таму мы, усе прысутныя тут біскупы, ускладаем на цябе рукі і молімся за цябе ва ўзаемнай любові і агульнай адказнасці.






І была малітва — шчырая, узнёслая малітва да Пана Бога за спасланне дароў Духа Святога на біскупа Уладыслава, за Божае блаславенне на ягоным будучым нялёгкім шляху. І прысутныя, і сам біскуп Уладыслаў, напэўна ж, добра ўсведамлялі, што чакае яго сапраўды нялёгкі шлях. Бо кожная новая справа заўсёды нясе шмат выпрабаванняў. А служэнне Богу на зямлі, дзе яшчэ не так даўно ішло змаганне з самім Панам Богам, не абяцае лёгкай дарогі. На тэрыторыі заходняй Віцебшчыны захавалася даволі шмат касцёлаў. Вядома, пасляваенны сталінскі перасслед нарабіў і тут шмат шкоды, але ўсё ж сучасныя Пастаўшчына альбо Глыбоччына — гэта зусім не тое, што, да прыкладу, Сенненшчына. Самыя бліжэй-

# У новай дыяцэзіі — новы біскуп





шыя каталіцкія святыні ад віцебскай катэдры — касцёлы ў Лепелі, Оршы, Полацку. Паміж імі — вялізныя абшары, дзе жывуць людзі, адарваныя ад Божай праўды. Так што працы ў новага біскупа і ягонага святарства будзе шмат. Але, ведаючы былога натхніцеля і нястомнага арганізатара міжнароднага фестывалю «Магутны Божа» ксяндза-біскупа Уладыслава Бліна, можна спадзявацца, што духоўнае адраджэнне Віцебшчыны з яго дапамогай набярэ новай сілы.

У сваім першым біскупскім слове ён сказаў:

— Ведаю, што быць біскупам — перш за ўсё абавязак, а не гонар. Біскуп павінен больш дапамагаць, чым кіраваць. Маім заданнем будзе новая евангелізацыя. Пастараюся, каб усе людзі, якія жывуць на тэрыторыі маёй дыяцэзіі, пазналі Божую любоў і як найхутчэй пачулі Евангелле... Веру, што дзякуючы Божай Ласцы і вашай сардэчнай падтрымцы, дарагія сябры, добра выканаю заданне, якое мне даручыў Касцёл.

Што ж, католікі Віцебшчыны павінны дзякаваць Пану Богу за тую ласку, якую Ён спаслаў на яе прыгожую зямлю, дзе жывуць добрыя, чулыя людзі.

І зразумела было тое хваляванне, з якім Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк прамаўляў, перадаючы паўнамоцтвы біскупскай улады на Віцебшчыне біскупу Уладыславу Бліну:

— Амаль дзесяць гадоў Віцебская вобласць належала да Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Усе гэтыя дзесяць гадоў я выконваў функцыі біскупа для Касцёла на Віцебшчыне. Сёння мая ўлада скончылася, бо ўжо ёсць новы біскуп. Я вельмі рады, бо, зразумела, што я не заўсёды мог паспець туды, дзе трэба было быць. За ўсе прабелы ў душпастырскай працы прашу прабачэння. Скажу шчыра: я палюбіў Віцебшчыну і асабліва яе людзей — адкрытых, добрых, зычлівых, ахвярных. За гэты час тут шмат рэстаўравана касцёлаў, пабудавана некалькі новых, утворана некалькі новых парафій. Але сёння гэта ўжо гісторыя. І сёння католікі Віцебшчыны разам са сваім новым біскупам адгортваюць яе новую старонку. Усім вам жадаю шмат Божых ласкаў і Божага блаславення.



Гістарычная падзея здзейснілася. Яе сведкамі сталі шматлікія вернікі, святарства, шаноўныя госці з Латвіі, Чэхіі, Польшчы, Славеніі, Расеі і іншых дзяржаў. Цяпер жа пачаліся будні, на якія католікі Віцебшчыны ўскладаюць шмат надзей.

*І. Студзеньская.*
*Фотарэпартаж Анатоля КЛЕШЧУКА.*



















# Святыні Юбілейнага Году на Беларусі






Мінск, архікатэдра
Імя Найсвяцейшай Марыі Панны



Нясвіж,
касцёл Божага Цела



Будслаў, санктуарый
Маці Божай
Будслаўскай



Мазыр, касцёл св. Міхала Арханёла



Пінск, катэдра Унебаўзяцця
Найсвяцейшай Марыі Панны



Магілёў, катэдральны касцёл
Унебаўзяцця Найсвяцейшай
Марыі Панны



Лагішын, касцёл святых
апосталаў Пятра і Паўла



Навагрaдак,
касцёл
Перамянення Пана






Брэст, касцёл
Узвышэння Святога Крыжа



Мосар, касцёл св. Юстына



Гродна,
катэдра Унебаўзяцця
Найсвяцейшай
Марыі Панны



Гудагай, касцёл
Наведзінаў Найсвяцейшай
Марыі Панны



Тракелі, касцёл
Наведзінаў
Найсвяцейшай
Марыі Панны



Браслаў, касцёл
Нараджэння
Марыі Панны



Віцебск, катэдральны
касцёл св. Барбары



Напярэдадні ўрачыстасці біскупскай сакры Кірыла Клімовіча. Святы Айцец перадаў сваё благаславенне для новамянаваных біскупаў на Беларусі праз Апостальскага нунцыя Дамініка Грушоўскага.

# Менаваны дапаможны біскуп для Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі











**4 снежня 1999 г. у мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ўпершыню за доўгія дзесяцігоддзі адбылася біскупская сакра. Атрымаў яе з рук Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка ксёндз Кірыл Клімовіч, былы дзекан Глыбоцкага дэканата, пробашч касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Глыбокім. Сукансэкратарамі былі нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі і ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Аляксандр Кашкевіч. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі біскупы з Беларусі, Расіі і Польшчы, прадстаўнікі дзяржаўнай улады, Праваслаўнай Царквы, замежныя госці, а таксама шматлікія святары, законнікі і законніцы, вернікі з усіх дыяцэзій краіны.**



Казанне прамовіў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Антоні Дзямянка. Ён, у прыватнасці, сказаў:

— Дарагі брат у святарстве! Ты будзеш далучаны да супольнасці пастыраў, апосталаў. Атрымаеш гэты вялікі дар у Касцёле, каб разам з ксяндзом кардыналам несці душпастырскую паслугу ў гэтай архідыяцэзіі і адначасова прыняць як біскуп, як той, хто атрымаў паўнату ласкаў у Касцёле, сумесную адказнасць за Касцёл. Сёння вы, умілаваныя ў Хрысце вернікі, атрымаеце дапаможнага біскупа, шануйце яго, як таго, хто мае паўнату ўлады як наступнік апосталаў, так, як рабілі гэта вашыя продкі, вызнаўцы Хрыста тут, на гэтай зямлі, у мінулыя стагоддзі, дапамагайце яму ўва ўсім, слухайце яго і падтрымлівайце.




Умілаваныя ў Хрысце Пану, біскуп не толькі моліцца за вас, не толькі вас навучае, не толькі з'яўляецца даўцам святых сакрамэнтаў, але і кіраўніком таксама гэтай супольнасці.

Дарагі брат у святарстве! Любі гэты люд Божы і служы яму верна.

У незвычайным месцы ты атрымліваеш біскупскую сакру: у гэтай катэдры распачынаў сваё пастырскае служэнне Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі.

Незвычайны чалавек – мужны сведка веры, ксёндз арцыбіскуп кардынал Казімір Свёнтэк перадасць табе разам з іншымі біскупамі гэту паўнату святарства.

Ты належыш да супольнасці наступнікаў апосталаў і таму нясеш адказнасць разам са Святым Айцом і ўсімі біскупамі за ўвесь Касцёл.

Мы атуляем цябе нашаю малітоўнаю апекаю і маем надзею, што тыя абавязкі, якія Апостальская Сталіца сёння ўскладвае на твае плечы, мянуючы цябе біскупам, ты з годнасцю выканаеш. А Хрыстус Пан – адзіны Збавіцель свету – няхай благаслявіць цябе на гэта нялёгкае служэнне.

Да новаменаванага біскупа з прачулым пастырскім словам звярнуўся мітрапаліт Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынал Казімір Свёнтэк:

— Дарагі біскуп Кірыл!

У Евангеллі ёсць выразны наказ нашага Боскага Збаўцы Езуса Хрыста: «Ідзіце і навучайце ўсе народы». Ты сёння атрымаў біскупскую сакру, якая дае табе правы выконваць абавязкі дапаможнага біскупа ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Ты пакліканы з людзей і для людзей і павінен выконваць біскупскія абавязкі, каб гэтыя людзі бачылі ў табе сапраўднага каталіцкага біскупа, бо кожнага біскупа Пан Езус пасылае навучаць усе народы Яго Божаму Евангеллю. Таму ў сваёй душпастырскай працы ўсе біскупы імкнуцца заўсёды памятаць пра гэты Хрыстовы наказ. Нельга падзяляць людзей на тыя ці іншыя групы ў за-



калі атрымае біскупскую сакру кс. Кірыл Клімовіч як дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Святы Айцец пабачаў, што ў гэты дзень будзе памятаць пра ўсіх нас і маліцца. Я рады, што магу перадаць гэтае апостальскае благаслаўленне двум новакансэкраваным біскупам на Беларусі – ксяндзу біскупу Уладыславу Бліну і ксяндзу біскупу Кірылу Клімовічу. Разам са Святым Айцом, якому мы ўдзячныя за новых пастыраў, праслаўляйма гэты дзень, дзякуючы Пану Богу і просячы Яго, каб гэтыя дары прынеслі свой багаты плён.

*Рэд.*
*Фотарэпартаж Анатоля КЛЕШЧУКА.*

лежнасці ад іх поглядаў, сацыяльных ці палітычных умоваў, ці іх нацыянальнай прыналежнасці. Ты пакліканы з людзей і для людзей, а таму служы ўсім гэтым людзям без выключэння: без абмежаванняў, без падзелаў.

Няхай кожны ў табе бачыць каталіцкага біскупа, сапраўднага наступніка апосталаў! Няхай табе ў гэтым служэнні дапамагае Бог, няхай атуляе цябе сваёю міласэрнаю апекаю Маці Божая.

Далучаючыся да віншавання новаменаванага біскупа, нунцый Апостальскай Сталіцы Дамінік Грушоўскі сказаў:

— Дарагі біскуп Кірыл, дарагі Эмінэнцыя, дарагія Экцэленцыі, шаноўныя браты і сёстры!

Дзякуем Пану Богу за тое, што даў гэтай зямлі пастыраў, якія могуць весці евангелізацыю, пераадольваючы ўсе цяжкасці, што сустракаюцца на гэтым шляху. Але сёння мне найперш хацелася б перадаць вам прывітанне Святога Айца Яна Паўла II. 2 снежня я быў на аўдыенцыі ў Яго Святасці. Мы гаварылі са Святым Айцом пра гэты сённяшні дзень 4 снежня,





# ПА ШЛЯХУ АДРАЖЭННЯ

Гэтай падзеі ў белагрудскім касцёле святога Міхала Арханёла, што на Лідчыне, чакалі больш за паўвеку. Упершыню за ўвесь пасляваенны час мясцовыя парафіяне ўрачыста сустракалі свайго біскупа, ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча, які прыбыў да іх 3 кастрычніка з душпастырскаю візітацыяй, а таксама, каб удзяліць сакрамэнт Бежмавання 360 вернікам, што на працягу некалькіх месяцаў рыхтаваліся да гэтага адказнага моманту ў сваім жыцці. Трэба было бачыць тое радаснае хваляванне, якое панавала ў гэты дзень у парафіі. Значнасць падзеі можна было адчуць ужо на павароце з галоўнай гродзенскай трасы на белагрудскую дарогу: на працягу чатырох кіламетраў, да самай святыні, шлях біскупа вернікі ўпрыгожылі рознакаляровымі сцяжкамі і кветкамі. І, не раўнуючы, як тыя сцяжкі на восеньскім ветры, трымцелі сэрцы парафіянаў, што так шматлікa сабраліся ў гэты дзень у белагрудскім касцёле. Нельга было без узрушэння глядзець і на саміх кандыдатаў да Бежмавання: многія з іх ужо на схілку жыцця прычакалі гэтай вялікай Божай ласкі атрымаць дар Духа Святога з рук свайго біскупа...



Сёння, калі ў каталіцкім Касцёле на Беларусі адбываюцца падзеі сапраўды гістарычна-значныя, калі кансэкруюцца новазбудаваныя святыні і мянуюцца новыя біскупы, калі па волі Апостальскай Сталіцы ўтвараюцца новыя дыяцэзіі, жыццё асобнай парафіі як бы застаецца ў цені, адыходзіць на другі план. Але зразумела, што не было б і тых важных гістарычных падзей у жыцці Касцёла, каб не было паўнакроўнага, актыўнага жыцця менавіта парафіяльных супольнасцяў – усіх разам і кожнай асобна ўзятай.

Што ж датычыць канкрэтна белагрудскай парафіі, то пра яе можна было б распавесці шмат цікавага і павучальнага, пачынаючы ўжо з будовы вялікай і прыгожай белагрудскай святыні, узведзенай у стылі неаготыкі на месцы старажытнага драўлянага касцёла ў 1905 г. Святыня цікавая яшчэ й тым, што стаіць яна ў адной з самых прыгожых мясцінаў Гродзеншчыны, на ўзвышшы, якое мясцовы люд з любоўю і гонарам называе белагрудскімі гарамі.

Каля падножжа касцёла няспешна плыве да Нёмана глыбока-таемная і чыстая тут Дзітва. Блізь касцёла пракаветныя сосны ахінаюць сваімі выгладжанымі часам, пакручастымі сукамі невялікі курган з устаноўленым на ім памятным слупком. Надпіс на слупку сведчыць, што тут калісьці было старажытнае паселішча і што курганок гэты ахоўваецца дзяржаваю. На жаль, суседняга з ім касцёла гэта дзяржава не ахоўвала ніколі. Ахоўваў яго Пан Бог і верны люд, а дапамагаў вернікам іх магутны апякун і заступнік святы Міхал Арханёл. А яшчэ – Маці Божая Міласэрнасці, чый цудоўны абраз канца XVII ст. на працягу ўсяе гісторыі белагрудскай святыні ўпрыгожвае яе галоўны алтар.



Белагрудскі касцёл адметны такса-



толікам заўсёды заставацца людзьмі, ратавала іх чалавечую і хрысціянскую годнасць. Можна было цярпліва зносіць паўсядзённасць калгаснага беспрасвецця, цеплячы ў сэрцы надзею на абавязковую сутрэчу з Богам у нядзелі і ў святы. І гэтай надзеі ў іх не мог адабраць ніхто. Божае Слова, Эўхарыстыя ў часе Святой Імшы давалі ўпэўненасць і сілу, а гукі старажытных арганаў набліжалі неба, змушалі думаць пра вечнасць і жыць дзеля яе...

ма й тым, што нават і ў часы жорсткага пераследу каталіцкай веры ён належаў вернікам і ніколі не зачыняўся.



Прайшоў праз савецкія турмы ягоны колішні пробашч, святой памяці ксёндз Стэфан Гародка, але парафіяне і ў адсутнасць святара прыходзілі ў свой касцёл, маліліся, спявалі гадзінкі, адпраўлялі нешпары і маёвыя набажэнствы.

Пасля смерці кс. Гародкі, на пачатку змрочных 60-ых, у белагрудскую парафію прыехаў з Гродна малады і бескампрамісны ў адносінах да бязбожнай улады кс. Казімір Шаняўскі. Сённяшні радуньскі дзекан, ксёндз пралат Казімір аддаў гэтай парафіі больш за 30 гадоў ахвярнага святарскага служэння. Менавіта дзякуючы яму ў парафіі захавалася, перажыўшы ўсе ганенні і пераследы, каталіцкая вера, яе жывая і глыбокая традыцыя. Вера гэтая дапамагала тутэйшым ка-

Два гады назад для белагрудскай парафіі святога Міхала Арханёла пачаўся як бы новы адлік часу, а жыццё набыло іншы, больш імклівы тэмп.

5 снежня 1997 года сюды быў прызначаны пробашчам выпускнік Ломжынскай духоўнай семінарыі ксёндз Рышард Пэрчак. Паходзіць ксёндз Рышард з суседняй Беласточчыны. Да святарскага паклікання ён прайшоў добрую жыццёвую школу, працуючы на Гданьскім суднабудаўнічым заводзе. Пасля заканчэння семінарыі служыў дыяканам у Каменцы, а атрымаўшы святарскае пасвячэнне, год працаваў вікарыем у пасёлку Бярозаўка на Лідчыне. І вось новае прызначэнне...

Цяпер, азіраючыся на гэтыя два гады, пражытыя ў белагрудскай парафіі, ксёндз Рышард успамінае свой першы дзень, дакладней, вечар на плябаніі, калі застаўся адзін пасярод пустога пакоя і, седзячы на старым жалезным ложку, разгублена азіраў непрытульнае, знішчанае памяшканне, у якім цёк дах і якое за савецкім часам бачыла розных «кватарантаў». Святар тады меў права на адзін альбо два пакоі, у астатніх жылі выпадковыя людзі, размяшчалася бальніца, а ў свой час, у канцы 50-ых, некалькі пакояў пля-





баніі займала нават радзільнае аддзяленне... Зразумела, што першае знаёмства з такою «гаспадаркаю» не дадало аптымізму новаму пробашчу. Але побач быў прыгожы касцёл, былі людзі, і святар узяўся за працу...

Сёння ўжо, гледзячы на прыгожы, з густам і толкам адноўлены будынак плябаніі, на чысціню і парадак вакол святыні і на могілках, не верыцца, што зусім нядаўна ўсё тут было інакш. На шчасце, актыўная гаспадарчая дзейнасць не перашкаджае ксяндзу Рышарду гэтак жа актыўна і самаахвярна займацца душпастырствам. Дзякуючы гэтаму можна з радасцю казаць пра сапраўднае адраджэнне яшчэ аднае парафіяльнай супольнасці на Беларусі, пра яе вяртанне да паўнавартаснага рэлігійнага і духоўнага жыцця. А ў гэтым адраджэнні, несумненна, ёсць свае, найбольш важныя моманты. Нават староннім вокам можна адразу заўважыць прыкметнае амаладжэнне белагрудскай парафіі. Коль-

кі сябе памятаю, заўсёды бачыла пры алтары белагрудскага касцёла толькі пажылых міністрантаў. Увогуле, было такое ўражанне, што ў парафіі няма ані дзяцей, ані моладзі. Як жа змянілася гэтае ўражанне за апошні час! Каля алтара, як кажуць, няма дзе яблыку ўпасці: у часе нядзельнай альбо святочнай Імшы святару асыстуе добры дзесятак хлапчукоў рознага ўзросту, спявае група моладзевага хору, а першую Св. Камунію ў гэтым годзе тут прыняло ажно 66 дзетак...

Пры парафіі адраджаецца пілігрымкавае жыццё: сёлета ўпершыню за доўгі-доўгі час была арганізавана першая пешая пілігрымка моладзі да Маці Божай Тракельскай.



Нельга не сказаць таксама пра такі важны момант у жыцці гэтай парафіяльнай супольнасці, як місіі айцоў палатынаў, прысвечаныя Божай Міласэрнасці, якія прайшлі тут у маі месяцы. Каля касцёла быў устаноўлены місійны крыж, а ў самой святыні з'явіўся абраз Езуса Міласэрнага, падараваны шахцёрамі з Валбжыха, якія ў тыя дні наведалі парафію. Менавіта місіі айцоў палатынаў далі пачатак развіцця ў белагрудскай парафіі культу Божай Міласэрнасці, шчырым і перакананым прыхільнікам якога з'яўляецца ксёндз Рышард. Цяпер кожная апошняя



нядзеля месяца прысвечана тут набажэнству да Божай Міласэрнасці.

Цудоўным чынам ажывіла і яшчэ больш паяднала гэту парафіяльную супольнасць перэгрынацыя фігуркі Маці Божай Фацімскай. Вандруючы па вёсках і хутарах парафіі, яна не мінае ніводнае хаты і ніводнае душы, натхняючы людзей да малітвы і даючы надзею. Цікава і вельмі сімвалічна тое, што ў часе гэтай перэгрынацыі Маці Божую запрашаюць да сябе таксама й многія праваслаўныя сем'і, молячыся да Яе разам са сваімі суседзямі-католікамі...

Незабыўным было й свята ўраджаю, якое прайшло ў белагрудскім касцёле ў апошнюю нядзелю жніўня. У ім удзельнічалі не толькі шматлікія вернікі, але й многа запрошаных гасцей – кіраўнікі тых гаспадарак, што знаходзіцца на тэрыторыі парафіі. Гэта прыгожая і глыбокая па сваёй рэлігійнай сутнасці традыцыя дзякаваць Богу за сабраны плён зямлі была незаслужана забыта ў нашым краі за доўгі час атэізму. І вось цяпер яна зноў пачынае адраджацца...

Своеасаблівым падсумаваннем двух апошніх гадоў напружанай працы стала для белагрудскай парафіі і яе пробашча ўрачыстая візітацыя ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі біскупа Аляксандра Кашкевіча. І гэту візітацыю, і ўдзелены душпастырам сакрамэнт Бежмавання парафіяне ўспрынялі як вялікую Божую ласку і сапраўдны дар Духа Святога для іх супольнасці напярэдадні Вялікага Юбілею хрысціянства. Са слязьмі на вачах яны дзякавалі ў гэты дзень добраму Богу і біскупу Аляксандру Кашкевічу за свайго пробашча ксяндза Рышарда Пэрчака, якога паспелі палюбіць за яго шчыры клопат пра парафію, за яго святарскую самаахвярнасць і чалавечую дабрыню.

На заканчэнне гэтай прыгожай урачыстасці ксёндз біскуп пажадаў вернікам увайсці ў трэцяе тысячагоддзе «людзьмі моцнай, непахіснай веры». Тае веры, якую яны здолелі захаваць і пранесці ў сваіх сэрцах праз усе жыццёвыя нягоды і выпрабаванні.

*Крыстына ЛЯЛЬКО.*
*Фотаздымкі аўтара і з архіва парафіі.*



# Зноў гучаць званы






Альковічы і Ілля. Дзве самастойныя парафіі ў заходняй частцы Вілейскага раёна. Адлегласць паміж імі зусім невялікая (менш за 20 км) і, можа быць, таму гістарычныя лёсы гэтых дзвюх сумежных парафій вельмі падобныя. Абедзве былі заснаваныя на пачатку XVIII ст.: у Альковічах першы драўляны касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны ўзвялі ў 1722 г.; у Іллі — пад тытулам Святога Міхала Арханёла — у 1726 г. Праз паўстагоддзя ўжо састарэлыя будынкі замянілі новымі, больш прасторнымі і велічнымі: у Альковічах — у 1754 годзе, у Іллі — у 1772 годзе. Яшчэ праз стагоддзе, пасля задушэння паўстання 1863—1864 гг., вернікі абедзвюх парафій пацярпелі ганенні з боку царскіх уладаў. Праўда, у Альковічах касцёл удалося абараніць, а вось у Іллі святыню зачынілі і парафію ліквідавалі.

Людзі з Іллі пачалі хадзіць на набажэнствы ў Альковічы, але, як толькі ў 1905 г. з'явіўся імператарскі ўказ пра свабоду веравызнання, узяліся адраджаць сваю святыню. У 1909 г. новы касцёл быў асвечаны ўжо пад тытулам Найсвяцейшага Сэрца Езуса. У суседніх Альковічах таксама адбылося асвячэнне новага цаглянага храма, праўда, раней — у 1902 годзе. І хоць памеры гэтых касцёлаў розныя (у Альковічах — трохнававая святыня з чырвонай цэглы ў стылі неаготыкі, у Іллі — сціплая аднанававая з цагляных блокаў з элементамі неараманікі), у іх архітэктурных абліччах ёсць агульнае, галоўнае — жаданне вярнуцца да вытокаў заходняга хрысціянскага дойлідства, да вобразаў сярэднявечных святыняў.



Аднолькава трагічным для абедзвюх парафій стаў час ваяўнічага атэізму 1950-х гадоў: абодва касцёлы зачынілі, а будынкі прыстасавалі для гаспадарчых патрэбаў мясцовых калгасаў. Як гэта і здаралася ў «перадавых» калгасных гаспадарках, святыні хутка ператварыліся ў безжыццёвыя руіны. У такім выглядзе — страціўшы высокія вежы, з праваленымі дахамі, з пустымі вачніцамі выламаных вокнаў — абодва касцёлы былі залічаныя ў помнікі архітэктуры, аднак гэта ніяк не адбілася на іх вартым жалю стане: сцены працягвалі расколвацца, скляпенні абвальваліся, цэгла раскрадалася.

Як толькі атэістычны прэсінг паслабеў, католікі, не шкадуючы сілаў і сродкаў, узяліся адраджаць свае апаганеныя святыні. У 1992 г. быў асвечаны касцёл Марыі Панны ў Альковічах, праз год — касцёл Сэрца Езуса ў Іллі. Зразумела, што за некалькі гадоў цяжка было вярнуць святыням колішнюю веліч, якая стваралася стагоддзямі і вынішчалася за дзесяцігоддзі. Аднаўленне страчанага працягваецца.



Летам у абедзвюх парафіях асвяцілі новыя званы: **«Найсвяцейшае Сэрца Езуса»** для Іллі і **«Маці Божая Фацімская»** для Альковічаў. Яны былі адлітыя ў 1993 г. у польскім горадзе Глівіцы. Урачысты абрад асвячэння адправіў ксёндз Алоіз Шулік, бернардзінец, які служыць у абедзвюх парафіях.

...Хутка званы ўпрыгожаць касцёльныя вежы і мы будзем маліцца за тое, каб іх галасы больш ніколі не сціхалі.

*А. ЯРОМЕНКА.*
*Фота аўтара.*

# ВЫПРАБАВАННЕ



# ВЕРЫ

«Калі дом не збудуе Пан — дарэмна стараюцца яго будаўнікі», — спяваецца ў адным з псальмаў.

Надзвычай гэта цікавая і унікальная з'ява — узвядзенне новай святыні. Так яшчэ зусім нядаўна было ў Полацку. Здавалася б, усё адбывалася на вачах: цяжкія земляныя работы, павольнае ўзвядзенне сценаў і вежы, чый каркас даволі доўга стаяў у двары, а рабочыя ўсё нешта маракавалі вакол яго. І нецярплівілася: хутчэй бы ўжо вежа... крыж... алтар. І, здавалася, не будзе канца малітвам вернікаў на няветлых скразняках, на марозе, калі на алтары замярзаюць віно і вада. Пяць гадоў... А прамінуліся яны, і цяпер ужо ва ўтульнай святыні цяжка даць веры, што ўсё гэта некалі было. Паўстаў ён у Полацку, бялюткі касцёл св. Андрэя Баболі, і ўспрымаецца цяпер як нейкі цуд — прыгожы цуд, што ўзнік на вачах.

Гэта — у Полацку. У гэтым старажытным горадзе былі некалі касцёлы, кляштары законнікаў, а значыць, было і нармальнае каталіцкае жыццё. У Наваполацку ж, горадзе, які быў закладзены як ударная камсамольская будоўля напрыканцы 60-х гадоў, месца як для святыняў, так і для духоўнага жыцця гараджан не прадугледжвалася. У яго ад самага пачатку закладвалася ідэя іншага шчасця — без Бога і Яго каштоўнасцяў. Прынамсі, не дапускалася і думкі, што ў маладым горадзе нафтахімікаў знойдуцца такія, каму спатрэбіцца Божая святыня. Аказалася — знайшліся. І напачатку 90-х гадоў у Наваполацку была пабудавана спачатку адна невялічкая праваслаўная царкоўка, потым для яшчэ адной улады перадалі будынак былой лазні. З'явілася і некалькі баптысцкіх абшчынаў.

Ну а што ж каталікі? Аказалася, што ў горадзе камсамольскай будоўлі іх таксама зусім нямала. Некалькі гадоў таму яны аб'ядналіся ў парафію. Напачатку іх чакаў незайздросны лёс кватарантаў — адно памяшканне, другое, трэцяе... Колькі ж можна? Наспела патрэба будаўніцтва касцёла.

Пад яго гарадскія ўлады адвялі даволі прыгожы, узгорысты пляц у атачэнні соснаў ды бярозаў. «Будаваць у наш час? Шаленства!» — скажуць некаторыя. І ў нечым яны будуць мець рацыю, бо распачаць будоўлю цяпер — гэта значыць адмовіцца і ад смачнейшага кавалка на стале, і ад абноўкі ў шафе. Але што ж рабіць, калі магчымасць узводзіць святыні з'явілася менавіта ў наш няпросты час? Напэўна, гэта і ёсць сур'ёзным выпрабаваннем нашай веры. Не кожны яго вытрывае. Хтосьці падумае, што прасцей яму з'ездзіць у полацкі касцёл памаліцца і не чуць сябе абавязаным эканоміць для ахвяравання на будоўлю альбо ноч напралёт вартаваць гэтую будоўлю. А хтосьці і ўвогуле вырашыць, што клопат пра будучую святыню — справа пенсіянераў і зусім не людзей сярэдняга ўзросту, якія і без таго абцяжараныя цяжкім жыццёвым клопатам. Не кожны вытрымлівае выпрабаванне будоўляй.

Але затое колькі радасці выпадзе на долю таго, хто не адступіцца! Не спужаецца, да прыкладу, такіх «нязручнасцяў», калі давядзецца маліцца пад адкрытым небам альбо ў дашчаніку, які не мае ні дзвярэй, ні падлогі. Было такое ў Наваполацку. Дзякуй Богу, людзі не спужаліся. Не спужаўся і святар — нядаўні выпускнік Гродзенскай духоўнай семінарыі Аляксандр Чайкоўскі.

Пачалі будаваць часовую капліцу. І неўзабаве пад наваполацкімі соснамі з'явіўся няхай сабе пакуль што і не надта вялікі, але ўсё ж цуд — капліца Маці Божай. Вырашылі прысвяціць яе Найсвяцейшай Панне Марыі як знак падзякі, бо менавіта ў тыя дні, калі фігура Маці Божай Фацімскай наведала Наваполацк, і адбылося пасвячэнне капліцы.

Адначасна ішла праца над праектам касцёла. Ён будзе побач — касцёл Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Ягоны макет стаіць цяпер у капліцы як напамін пра тую вялікую і адказную працу, што чакае наваполацкіх вернікаў. Першыя крокі ўжо зроблены: расчышчана пляцоўка пад будоўлю, вырыты катлаван, забітыя сваі. Перачакаўшы зіму, будзе закладвацца падмурак будучай святыні.



І ўсё ж зіма для вернікаў не стане перапынкам. Бо ўвесь гэты час у маладым горадзе над Дзвіной будзе тварыцца малітва. Самае надзейнае і вытрывалае ў ёй — старэйшае пакаленне. Пераехаўшы ў свой час у гэты горад у асноўным з заходніх раёнаў Віцебшчыны, гэтыя людзі вельмі доўга сумавалі па тым, што не маюць магчымасці ў нядзелю наведаць касцёл. І калі той сум рабіўся не да вытрывання, яны сядалі ці то ў аўтобус, ці то на цягнік і ехалі — у Глыбокае, Мёры, Браслаў... Цяпер, нібы падарунак іхняму шаноўнаму ўзросту, а, можа, падзяка Пана Бога за вернасць Яму, ёсць гэтая капліца, якую яны, за рэдкім выключэннем, наведваюць кожны дзень. Часта, калі бачыш, як яны ў вечаровым прыцемку паволі збіраюцца да сваёй святыні, на памяць прыходзяць словы аднаго знаёмага святара: «На ружанцах бабуль у Савецкім Саюзе вытрываў Касцёл».

Але наваполацкая парафія адметная яшчэ і тым, што тут ёсць даволі шмат вернікаў сярэдняга пакалення — дзеці тых, на чыіх «ружанцах вытрываў Касцёл». І галоўная сёння надзея тут, безумоўна, на іх. Змогуць яны быць гэткімі ж стойкімі ў веры, як іхнія бацькі і прадзеды, сумеюць перадаць гэтую веру сваім дзецям — значыць касцёл у Наваполацку будзе не толькі пабудаваны, але і будзе духоўна развівацца, зможа стаць асяродкам агромністай духоўнай спадчыны Паўсюднага Касцёла. Гэта не так проста, асабліва, калі памятаць, што малады горад не мае ўласных хрысціянскіх традыцый. Яны тут ствараюцца цяпер і ўбіраюць у сябе хрысціянскую культуру тых рэгіёнаў Беларусі, адкуль паходзяць сучасныя наваполачане.

Вялікай падмогай для парафіі і пробашча маглі б стаць законніцы, калі б толькі знайшліся такія, якія захацелі б прыехаць служыць Пану Богу ў Наваполацку. Тым больш, што парафія мае ўжо нават памяшканне для іх. А працаваць ім тут, дзякуй Богу, ёсць з кім.

...Калі бачыш, як марозным снежаньскім ранкам дзеці, абвязаныя шалікамі, спяшаюцца разам са старэйшымі на Раратнюю Святую Імшу, мацнее надзея на тое, што на месцы сённяшняга катлавана будзе некалі ўзведзены касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса, збудаваны не на пяску, але на трывалым камені каталіцкае веры. Бо спяваецца ж у псальме: «Калі дом не збудуе Пан — дарэмна стараюцца яго будаўнікі».

*Ірэна Задарожная.*

*Фотаздымкі з архіва парафіі.*





# ЧУВАННІ Ў БРАСЛАВЕ



Першая пятніца месяца. Вечар. Іду ў касцёл. Па дарозе сустракаю рэдкіх прахожых: адны вяртаюцца з працы, другія спяшаюцца ў піўную альбо ў нейкі яшчэ бар, кавярню. Чаго шукаюць яны там? І якімі выйдуць адтуль праз нейкі час? А вось насустрач, спяваючы, ідуць дзве жанчыны на добрым падпітку. Адна з іх нязграбна спатыкнулася, і проста ёй пад ногі пакацілася бутэлька. Разбілася. Настрой жанчын адразу мяняецца, яны брыдка лаюцца, абвінавачваючы ў сваім «няшчасці» ўвесь свет. Спяшаюся адысці...

Сёння — першая пятніца месяца, дзень, у які Пан Езус паміраў на крыжы, і таму кожны сумленны хрысціянін у гэты дзень імкнецца быць як мага бліжэй да Яго. Вось і ў браслаўскім касцёле сёння зноў будзе начное чуванне. Гэтая традыцыя тут даволі маладая, яна нарадзілася два гады таму, калі парафіяне адсвяткавалі стагоддзе сваёй святыні. З таго часу кожную першую пятніцу месяца ў касцёле збіраюцца вернікі на начное чуванне, каб падзякаваць Пану Богу за Ягоную вялікую любоў да іх, за гэтую святыню, за гэты свет, у якім кожнага з іх у свой час паклікаў Пан Бог. Ды ці мала за што мы можам дзякаваць Пану Богу, калі толькі верым Яму і любім Яго? Ці мала за што можам праслаўляць Яго? Ці мала чаго прасіць у Яго? Праблем і клопату ў кожнага нямала. Вось і ідуць браслаўскія католікі са сваімі праблемамі і турботамі сюды, каб тут вырашаць іх. Хтосьці нясе іх у піўныя ды кавярні, а яны — сюды. Бо ведаюць, што сапраўдны спакой і чысціню сумлення можна атрымаць толькі тут, у святыні, дзе іх заўсёды чакае Пан Езус.

Ружанец. Найлепшая абарона ад злога духа. «Вітай, Марыя, поўная ласкі...« Мы хочам быць з Табою, святая Марыя. Мы просім Цябе весці нас да свайго Сына, бо Ты найлепш ведаеш гэты шлях. Хочам, каб Ты навучыла любіць Яго, бо сама любіла Яго дасканалаю любоўю.

Крыжовы Шлях. Крыж трымае ў руках малады хлопец, па баках — яшчэ два хлопчыкі са свечкамі ў руках, а за імі — чародка дзетак. Раз на месяц у першую пятніцу гэтыя дзеткі не спяць уначы. Разам з дарослымі яны разважаюць над Крыжовым шляхам Збаўцы. Разам моляцца за тых, хто ўзяў свой крыж і ідзе па жыцці за Хрыстом, і за тых, хто не ведае свайго шляху і імкнецца ўсялякім чынам вызваліцца ад крыжа, нягледзячы на яго вагу...

Святая Імша. Моладзь і дзеці наперадзе, старэйшыя — на лаўках. Які ж спакой ахінае душу, калі ўдзельнічаеш у такой Святой Імшы, дзе ўвесь касцёл зладжана, нібыта на адным дыханні моліцца!

«...Успамінаючы смерць і змёртвыхпаўстанне Твайго Сына, ахвяруем Табе, Божа, Хлеб жыцця і Келіх збаўлення і дзякуем, што нас выбраў, каб мы стаялі перад Табою і Табе служылі. Пакорна просім, каб Дух Святы з'яднаў усіх нас, прымаючых Цела і Кроў Хрыста...«

Дзякуючы нястомнай працы святара законніка кс. Лешака Вітвіцкага касцёл у Браславе жыве цікавым, багатым жыццём. Дзякуючы ціхай і пакорнай дапамозе сясцёр эўхарысткі у святыні ўсё больш сустракаеш маладыя і дзіцячыя твары. Хто ведае, можа, дзякуючы менавіта малітвам гэтых юнакоў і дзяўчат Бог літуецца над намі... А што ж я? Я, ты і кожны з нас можа далучыцца да гэтай шчырай малітвы, каб нас станавілася ўсё больш і больш. Бо што ж, як не малітва — шчырая, удзячная, пакорлівая — здольна напоўніць нашае жыццё вялікім сэнсам жыцця ў Богу?

... На Браслаў апусцілася ноч. А ў касцёле трывае малітва. Дзеля таго трывае, каб над нашай зняверанай, часам спітай, часам зняверанай зямлёй узышло нарэшце яснае сонейка веры. Будзем спадзявацца, што так яно і станецца. Але ці будзе ў гэтым твой і мой удзел?

*Яніна ЖАЎНЯРОВІЧ.*

















Так рыхтаваліся католікі Гродзеншчыны напярэдадні Вялікага Юбілею да Божага Нараджэння.

За гэтаю падрыхтоўкаю пільна сачыў фотааб'ектыў нашага карэспандэнта Анатоля Клешчука...

# БОГ — УСЮДЫ

Ілгаць не магу. Народжаны на пачатку 50-х, рос і выхоўваўся на ідэях марксізму-ленінізму, дзе падмуркам для ўсяго разумовага і пачуццёвага быў выключна атэізм. Можаце не верыць, але нават шкадаваў, што ў кампартыю ўступіць не давялося. Прычына, зрэшты, была празаічная: маладому інтэлігенту, колішняму работніку культуры, усё не хапала «адзінкі», бо існавала так званая «разнарадка».

Няшмат (за сорак з паловай пераваліла) пражыў. Думаю. Разважаю. Поспехі былі сякія-такія. Пралікаў было больш... А ўсе развагі імкнуцца да асноўнага. На Вялікае наводзяць яны. Пра нягоды ўсялякія свае калі згадваеш — асабліва.

А, зрэшты, думка наша чалавечая кіруе нас заўсёды туды, куды кіравацца ёй і належыць.

...Вось бралі вы свой шлюб у царкве, перад алтаром стаялі. Святы крыж і ікону святую цалавалі. Быць адно з адным да канца дзён сваіх Усявышняму абяцалі. Абяцалі, што б там ні здарылася — ці нястачы якія па жыцці, ці хвароба якая напаткае выбранніка вашага, ці хоць патоп які ізноў усім нам надарыцца — абяцалі. Але не вытрываў хтосьці з вас нават найменшага з гэтых выпрабаванняў і — напрасткі пайшоў, па-жывому, як кажуць, рэзаць пачаў. Што ж, новае тое падалося яму больш прыдатным для жыцця ягонага зямнога. Але... Хай не спадзяецца той няшчасны, што пад вянцом некалі стаяў, на штосьці лепшае. Не атрымаецца. Не выйдзе. Не было ў Бога такой задумы аніколі, каб хтосьці ашчасліві́ў сябе з-за таго, што суджанага свайго няшчасным зрабіў. Таму шчасце аднаго будзе несапраўдным, ілюзорным яно будзе. Міне нейкі час — і зразумее чалавек: тое, штосьці знойдзенае ім новае — памылковае, спадманнае. Да таго ж, як гаворыць вопыт нашых далёкіх продкаў, такое прасвятленне найцяжэйшым потым бывае радзей для мужчын. Жанчыне як захавальніцы ўсяго святога між нас, людзей, ісці на такія памылкі не варта. Бо ёй Бог пры стварэнні свету, пэўна ж, найболей даў. Адказнасць за ўсё чалавечае найбольшую ёй наканаваў. Таму, выходзіць, з яе, жанчыны, і спытацца больш павінна. Думаецца, што не толькі *там*. Але і *тут* — таксама.

...Занатаваў вось, здавалася б, усе свае турботныя развагі. Супакоіўся быццам бы. Ды пацягнулася рука да Галоўнай кнігі чалавецтва. Да Бібліі. І наколькі ж прасвятлела ў галаве маёй, калі назаўтра, пад раніцу, прачытаў: *«...што Бог злучыў, таго чалавек хай не разлучае»* (Мц 19, 6).

Бог — усюды. Побач з намі Ён. Днём і ноччу. Штохвілінна. Бачыць усё. Штосьці, бывае, раіць нам. Нешта падказвае часам. Ды, на жаль найвялікшы, да парадаў і падказак Ягоных глухімі мы сталі. Не чуем. А пачуем — дык прыслухацца, а тым болей успрыняць пачутае, не жадаем. Не імкнемся нават.

Ён, літасцівы наш, магчыма, даруе тым абаім, што пад вянец некалі ішлі. Неразумным такім цяпер. А аднаму з іх, пакрыўджанаму, дык і на сапраўдны непадманны шлях новы нават пакажа. Бо як жа думаць пра вось такое?

...Спякотны ліпень стаяў. Ехаў нашым сталічным метро. Пра сваё, царквой скраплёнае, і памятаў, і разважаў. Падняў вочы і — такое цяпло агарнула. А колькі ж адчуў тымі хвілінамі кароткімі! Нават чалавечага чагосьці — спачатку. І бацькоўскага, і мацярынскага нават — затым. А і мужчынскага — таксама. А прыўзнялася Яна, дык і ногі скіраваліся не туды, куды належала ім кіравацца. Нейкія словы казалі адно аднаму. Ды не чулі мы слоў тых. Бо гаварылі між сабой не мы. Гэта вочы нашы не маглі нацешыцца. І нагаварыцца яны аніяк не маглі.

Тэлефанаванні цяпер вось маем. Пачую Яе голас і — такое жаданне раптоўна наплывае. Жаданне гэта — жыць. Доўга-доўга. Хай нават дзеля таго толькі, каб голас Яе чуць. Голас, якога прагну штодня. А пры сустрэчах кароткіх, што часам надараюцца, — Яе позіркаў і дотыкаў рукі Яе....

Пад Богам усе ходзім. А ўсё астатняе, што дзеецца са мной і з табою, як хтосьці, паматаецца, з людзей дужа вядомых сказаў, значэння асаблівага не мае. Бог — усюды. І любіць Ён нас. І карае нас. І, бачна, шкадуе Ён нас, неразумных, — таксама.

*Мікола СТАНКЕВІЧ.*





*Святы Аўгустын, біскуп*

# МЫ ПАВІННЫ ГАНАРЫЦЦА КРЫЖОМ ХРЫСТА

Мука Пана і Збаўцы нашага Езуса Хрыста — задатак хвалы і школа цярплівасці.

Велічна тое, што Пан абяцаў нам у будучыні. Але наколькі ж большае тое, што Ён для нас ужо ўчыніў. Дзе былі альбо чым былі людзі, калі Хрыстус памёр за бязбожных? Хто ж можа сумнявацца, што Ён можа даць цела, то само ў сабе не мела б нічога, што магло б за нас памерці. Такім чынам Несмяротны мог атрымаць смерць і так пажадаў даць жыццё смяротным: учыніў пазней удзельнікамі сябе тых, удзельнікам якіх раней сам стаўся. Бо не ад сябе мы маем тое, што можам жыць, ані Ён ад сябе тое, што мог памерці.



Сапраўды дзівосную Ён зрабіў з намі замену таго ўзаемнага ўдзелу: нашым было тое, праз што Ён памёр, а Яго — тое, дзякуючы чаму мы будзем жыць.

святым жыццё, калі даў ім таксама сваю смерць? Чаму чалавечая слабасць марудзіць паверыць, што некалі ў будучым людзі будуць жыць разам з Богам?

Тое, што было, нашмат больш непраўдападобнае, ужо сталася: Бог памёр дзеля чалавека.

Бо кім жа ёсць Хрыстус, калі не Тым, што «напачатку было Словам, а Слова было ў Бога і Богам было Слова»? Якраз гэта Божае Слова «сталася целам і пасялілася сярод нас». Бо калі б яно не прыняло ад нас смяротнага

Таму мы не толькі не павінны чырванець з прычыны смерці Пана, нашага Бога, але мы маем права ганарыцца ёю ў найвышэйшай ступені і ўскладаць на яе ўсялякую надзею. Бо Ён, прымаючы ад нас смерць, у якой заспеў нас, прысягнуў найбольш верна даць нам жыццё, якога мы самі з сябе не можам мець.

Бо Ён так палюбіў нас, што тое, чаго мы заслужылі нашымі грахамі, сам выцерпеў, хоць і быў вольны ад граху. Дык, як бы адмовіў нам у тым, што належыць нам па справядлівасці? Як жа мог бы нам не даць абяцанай узнагароды святых Той, які без аніводнае правіны са свайго боку выцерпеў пакаранне, прызначанае для грэшнікаў?

Дык вызнавайма ж гэта без боязі, браты! Словам, абвяшчайма Хрыста за нас укрыжаванага! Абвяшчайма Яго не ў трывозе, але ў радасці, не будзем саромецца, але будзем ганарыцца Ім. (...)




## «Вітай, Марыя» —

так называецца каляндар для дзетак на Юбілейны 2000 Год. На кожнай яго старонцы прыгожа праілюстравана малітва да Маці Божай.

Каляндар выдадзены айцамі францішканамі ў Непакалянаве. Яго можна набыць у парафіях дыяцэзій.



**2000 год для Беларускай праграмы Радыё Ватыкан – юбілейны ўдвая, бо 6 студзеня яна адзначыла сваё 50-годдзе. Гэта ўсяго толькі саракавая частка шляху, пройдзенага хрысціянствам, але каму з нас вядомы сапраўдны кошт хоць бы адной хвіліны служэння Богу? Наш госць – дырэктар Беларускай праграмы айцец Клаўдзій Рабінет.**

*Жадаем айцу Клаўдзію і яго калегам, каб эфірны час заўсёды быў напоўнены словамі любові і дабрыні, надзеі і веры, міру і праўды ў Хрысце.*

# 50 ГАДОЎ У ЭФІРЫ

З 1976 года айцец Клаўдзій жыве ў Рыме. Прыехаў туды студэнтам універсітэта «Russicum». У 1979 г. прыняў сакрамэнт святарства і быў прызначаны пробашчам грэка-каталіцкага храма імя св.Антонія Вялікага ў Рыме. З 1982 г. працаваў таксама супрацоўнікам і памочнікам загадчыка Рускай секцыі праграм Радыё Ватыкан. У 1985 г. прыняў на сябе абавязкі дырэктара бібліятэкі Радыё Ватыкан. У 1996 г., калі памёр былы дырэктар Беларускай радыёпраграмы а.Роберт Тамушанскі, на яго месца прызначылі а.Клаўдзія, які і раней супрацоўнічаў з гэтай рэдакцыяй.

Пад яго кіраўніцтвам працуюць тры пастаянных супрацоўнікі праграмы, а таксама дзейнічаюць два карэспандэнцкія пункты ў нашай краіне.

*Радыё Ватыкан па-беларуску можна слухаць штодзённа на працягу 20 хвілін (з 6.20 раніцы і з 20.00 вечара) на кароткіх хвалях у дыяпазоне 31,49 м.*

Эфірны час прапарцыянальна падзяляецца на дзве часткі: фармацыйную, прысвечаную духоўнаму выхаванню слухачоў, і інфармацыйную, якая знаёміць з навінамі Апостальскай Сталіцы, а таксама з падзеямі рэлігійнага жыцця на Беларусі і ў свеце. Кожную другую і чацвертую нядзелю месяца транслюецца Св.Імша на рускай мове, у астатнія нядзелі – толькі казанні для католікоў. Па панядзелках слухачы могуць больш падрабязна даведацца пра тое, як Святы Айцец правёў нядзелю, паслухаць лекцыю пра абразы; па серадах – усё пра шлюб і сям'ю; па чацвяргах – цыкл перадачаў «Пакажы нам Айца», прысвечаны Вялікаму Юбілею 2000 года хрысціянства, а таксама азнаямленне слухачоў з унутранай арганізацыяй каталіцкага Касцёла; асобны час прызначаны таксама для катэхізацыі і чытання ўрыўкаў з кнігі Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі» ў беларускім перакладзе, а падчас спецыяльнай праграмы для моладзі чытаюцца старонкі кнігі італьянскага біскупа Ліворна «Ніякіх павучанняў».

Навіны, якія перадаюцца Беларускай праграмай Радыё Ватыкан, мала чым адрозніваюцца ад навінаў, што перадаюць іншыя праграмы, але ва ўсім астатнім праграма мае сваё непаўторнае аблічча. З прыходам а.Клаўдзія больш увагі стала надавацца пытанням экуменізму. Айцец Клаўдзій часта атрымлівае лісты ад прадстаўнікоў некаталіцкіх канфесіяў, ад радыёслухачоў з Расіі, якія яшчэ памятаюць яго па перадачах у Рускай праграме. На жаль, усе перадачы Беларускай праграмы і іншых праграмаў Радыё Ватыкан транслююцца толькі пасля папярэдняга запісу, што выключае магчымасць жывога кантакту з людзьмі. Айцец Клаўдзій – шчыры, ветлівы, чулы суразмоўца, што ўвогуле ўласціва большасці паслядоўнікаў св.Ігнацыя Лаёлы (дарэчы, той факт, што менавіта езуіт прадстаўляе Беларусь на Радыё Ватыкан, хоць і ў невялікай ступені, але кампенсуе адсутнасць місійных пляцовак Таварыства Езуса ў нашай краіне).

Калі падчас кароткай размовы з а. Клаўдзіем была закранутая тэма бліжэйшай перспектывы развіцця праграмы, яе дырэктар толькі сціпла спаслаўся на Літургічны каляндар святкавання Вялікага Юбілею, а як пробашч адной з грэка-каталіцкіх парафіяў Рыма заверыў у сваёй гатоўнасці прымаць групы беларускіх пілігрымаў у Вечным Горадзе.

*Жанна ПАХОДНЯ.*







*Дарагія сябры! Вось і распачаўся 2000 Год — Год Вялікага Юбілею Хрысціянства. 24 снежня, у вігілію Божага Нараджэння, Папа Ян Павел II адчыніў Святыя Дзверы ў базыліцы святога Пятра ў Рыме, прамовіўшы словы: «Вось брама Пана, праз яе праходзяць справядлівыя». Святыя Дзверы нагадваюць нам, што кожны хрысціянін паклікаены перайсці ад граху да ласкі і з'яўляюцца сімвалам сапраўднай і адзінай Брамы — Хрыста. 25 снежня біскупы адчынілі Святыя Дзверы ва ўсіх катэдрах сваіх дыяцэзій на цэлым свеце. Такім чынам мы з вамі, дарагія сябры, увайшлі ў Год Вялікага Юбілею, «год ласкі ад Пана». Я спадзяюся, што кожны з нас напоўніць гэты асаблівы час толькі добрымі справамі, выдатнымі поспехамі ў вучобе, шчырай малітвай і ўчынкамі міласэрнасці. Шчыра віншую вас з пачаткам Юбілейнага Года і жадаю, каб тыя іскрынкі радасці і спакою, якія запаліліся ў вашых сэрцах у свята Божага Нараджэння, ніколі не згасалі. Жадаю таксама, каб кожны з вас у гэтым годзе стаў нястомным пілігрымам і змог наведаць усе юбілейныя святыні нашага краю. Няхай Божае благаслаўленне прынясе ўсім нам спакой і спаўненне ўсіх добрых надзеяў і мараў.*



*А сёння мы пачнем маліцца трэцюю частку святога Ружанца — хвалебную. Пасля таго, як вы прышляце адказы на папярэднюю частку, мы падвядзем вынікі другой часткі нашага конкурсу.*

*Марыська*




## Частка трэцяя — хвалебная

## Таямніца першая
## ЗМЁРТВЫХПАЎСТАННЕ ЕЗУСА ХРЫСТА

**Пытанні да разважанняў**

1. Хто першы ўбачыў адкрытую грабніцу Езуса?
2. Каго спаткалі тыя людзі пры грабніцы і якія словы пачулі?
3. Хто з вучняў Езуса першым прыбег да грабніцы?
4. Колькі разоў Езус Хрыстус аб'яўляўся ў Вялікую Нядзелю?
5. Што прынесла чалавецтву змёртвыхпаўстанне Езуса Хрыста?

Ты змёртвыхпаўстаў, Езу, каб застацца разам з намі, несці нам сваю ласку і праводзіць у неба. Дзякуем Табе за гэтыя дары, наш Пане, і горача просім дапамагчы нам вытрываць пры Табе аж но да смерці, каб потым дачакацца радаснай хвіліны сустрэчы з Табою.

Дзякуем Табе, Маці Божая, за тое, што Ты заўсёды была з Ім. Праслаўляем Цябе, бо Ты дапамагаеш нам уваскрасаць з граху і набліжацца да Твайго Сына.

*Ойча наш...*
*10 Вітай, Марыя...*
*Хвала Айцу...*
*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі...*

Заклік да спакою ў Еўропе

# Адвага да паяднання

Кіраўнікі Канферэнцый Епіскапатаў Еўропы, сабраныя ў Афінах на пленарным сходзе Рады Канферэнцый Епіскапатаў Еўропы (CCEE), выказваюць свой вялікі неспакой драматычнымі падзеямі, якія адбываюцца ў Косаве і Чачні.

Грамадства Еўропы — шматнацыянальнае, шматканфесіянальнае – выбрала мадэль жыцця паводле прынцыпаў талерантнасці і мірнага суіснавання, але яшчэ ёсць рэгіёны вайны, нянавісці паміж народамі, рэгіёны ўзброеных канфліктаў, а часта і тэрарыстычных актаў.

Таму мы, біскупы, звяртаемся з заклікам да ўсіх адказных палітыкаў, да ўсіх Касцёлаў і рэлігійных супольнасцяў зрабіць усё магчымае, каб спыніць канфлікты, забойствы па прычыне нацыянальнай прыналежнасці. Мы звяртаемся да ўсіх народаў, якія ўдзельнічаюць у канфліктах, каб яны паўстрымаліся ад дзеянняў, поўных нянавісці і неталерантнасці.

Майце адвагу жыць у спакоі і справядлівасці з тымі, хто належыць да іншага народу ці вызнае іншую рэлігію! Шануйце правы кожнай людской асобы! Усялякімі спосабамі дапамагайце беженцам і будзьце гатовыя прабачыць і паяднацца! Толькі тады можна будзе дыхаць у Еўропе новым паветрам і стварыць умовы для сапраўды людской жыцця.

Давайце дадзім адвагу народам, ахвярам насілля, каб яны зноў пачалі давяраць і не баяцца будучыні, каб праз новае мірнае суіснаванне нарадзілася больш шчаслівая для ўсіх будучыня. Праз насілле ўсе губляюць, а праз мір усе атрымліваюць вялікі прыбытак.

Мы перакананыя, што сапраўдны супакой – гэта дар Міласэрнага Бога. Таму просім аб дары спакою і запрашаем усіх веруючых, якія належаць да якой-небудзь рэлігіі, памаліцца аб гэтым дары.

Мы спадзяемся, што з Божай дапамогай III тысячагоддзе пачне новую эпоху міру, суіснавання, узаемнага даверу і надзеі для ўсіх народаў Еўропы.

*Афіны,*
*13 лістапада 1999 года.*

# Карытас — гэта міласэрнасць

Напрыканцы мінулага года дырэктар дабрачыннага каталіцкага таварыства «Карытас» Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ксёндз Міхал Сапель быў узнагароджаны дзяржаваю ганаровай граматай «за гуманнасць, міласэрнасць і вялікую шматгадовую працу па аздараўленні беларускіх дзяцей за мяжою і аказанне гуманітарнай дапамогі насельніцтву Рэспублікі Беларусь, пацярпеламу ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы».

Трэба дадаць, што «Карытас» Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, акрамя названай дзейнасці, праводзіць таксама шматлікія канферэнцыі, сімпозіумы, семінары. Так, у Мінску ў снежні «Карытас» правёў семінар «Мененджмент праекта ў надзвычайных сітуацыях», які праходзіў у рамках праграмы «ECHO» (Еўрапейскага таварыства па аказанні гуманітарнай дапамогі).

У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі дабрачыннага каталіцкага таварыства «Карытас» Гродзенскай, Пінскай і нядаўна створанай Віцебскай дыяцэзій. Былі запрошаны таксама прадстаўнікі Упраўлення сацыяльнай абароны г.Мінска і іншых гарадоў Беларусі.

Асноўнымі дакладчыкамі на семінары выступілі прадстаўнікі «Карытаса» з Аўстрыі Біргіт Эртль, Фрыдрых Маерхофер, Крыстоф Мюледэр, Вальтрауд Гутэрбаўэр, а таксама з «Карытаса» Чэхіі Іры Бобрык.

У рамках гэтага семінара праводзіліся практычныя заняткі: «Дапамога ў надзвычайных сітуацыях. Навадненне ў Рэспубліцы Беларусь». Пасля падвядзення іх вынікаў пачался другая частка семінара – «Менеджмент праектаў у надзвычайных сітуацыях». Дакладней кажучы, удзельнікаў вучылі складаць праекты на выпадак надзвычайнай сітуацыі. Асноўным дакладчыкам быў Фрыдрых Маерхофер, які 18 гадоў працуе ў «Карытас» Лінца (Аўстрыя). Атрыманыя веды падмацоўваліся практычнымі заняткамі.

У канцы семінара было выказана шмат цёплых слоў яго арганізатарам. Людзі дзякавалі за унікальныя веды, якія тут атрымалі, і за магчымасць сустрэцца, пазнаёміцца, падзяліцца вопытам. Гэта канкрэтнае мерапрыемства сведчыць пра інтэнсіўную і карысную дзейнасць, якую вядзе «Карытас» Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і яго супрацоўнікі.

Віншуючы іх з урадавай узнагародай, рэдакцыя часопіса жадае «Карытасу» і надалей плённа выконваць сваю высакародную місію міласэрнасці.

*Г.К.*



# II Надзвычайны Сход Сіноду Біскупаў, прысвечаны Еўропе

**Рым, 1-23 кастрычніка, 1999 г.**

*«Езус Хрыстус, які жыве ў сваім Касцёле, — Крыніца надзеі для Еўропы»*

**З 1 па 23 кастрычніка 1999г. у Ватыкане адбыўся Сінод Біскупаў для Еўропы. 21 кастрычніка, падчас XVII Генеральнай Кангрэгацыі, айцы Сіноду зацвердзілі «Пасланне» II Надзвычайнага Сходу Біскупаў для Еўропы.**

**Тэкст «Пасланне»будзе апублікаваны ў чарговым нумары «Каталіцкіх навінаў». Перад удзельнікамі Надзвычайнага Сходу выступіў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. Ён, у прыватнасці, сказаў:**

...Распачатая за так званаю «жалезнаю заслонаю» рэлігійная свабода дала Касцёлу, які да гэтага часу цярпеў перасled, ці ў лепшым выпадку, — абмежаванні, свабоду дзеянняў. Веруючыя людзі ўрэшце пасля доўгіх гадоў прыгнёту змаглі свабодна ўздыхнуць. Тады запанаваў уздым веры. Скончылася сітуацыя гераічнага пераадольвання абмежаванняў і забаронаў, прыйшоў час рэалізацыі хрысціянства, легальнага і публічнага практыкавання рэлігіі.

Адраджэнне Касцёла сталася ўжо фактам, які выклікае здзіўленне і ўдзячнасць Божаму Провіду. Прысутнасць і дзейнасць Касцёла заўважаюцца і пазітыўна ацэньваюцца нават тымі, хто яшчэ не так даўно імкнуўся яго знішчыць, а сёння прызнаюць яго вялікаю і магутнаю сілаю ў духоўным адраджэнні народа.

Аднак сёння, пасля 10 гадоў аднаўлення, нельга не заўважыць існуючых яшчэ наступстваў камунізму, асабліва ў выглядзе страшнай духоўнай пусткі (vacuum), якую ўчыніў матэрыялістычны атэізм, як і панацця «homo sovieticus» — чалавека, уцiснутага ў савецкую сістэму.

Разам з дэструктыўнымі наступствамі ідэалогіі атэістычнага матэрыялізму, ідзе з Захаду таксама вялікая пагроза, якую ўжо зведвае старая Еўропа на парозе трэцяга тысячагоддзя, прымяняючы культурны плюралізм, тэндэнцыйна скептычны і нават нігілістычны. Выклікае таксама трывогу абсалютызаванне свабоды, якая разглядаецца ў адрыве ад праўды, любові ці адказнасці. Асноўнае злоўжыванне свабодаю — гэта выбар на карысць «ego» з адначасовым абмежаваннем карысці «alter» альбо дзейнасцю супраць яго. Неадпаведна зразуметая свабода і яе выкарыстанне вядзе да недахопу салідарнасці паміж людзьмі. Сярод недахопаў, якія перашкаджаюць аднове рэлігійнага жыцця, можна яшчэ назваць лібералізм, ідэалогію насілля і неталерантнасці і, зразумела, розныя віды матэрыялізму, з захапленнем спажывецкімі настроямі, прагаю абагачэння і дабрабыту.

Ёсць таксама і іншыя цяжкасці, якія датычаць праблемаў веравызнання. Хоць каталіцкі Касцёл і праваслаўная Царква фармальна прызнаныя галоўнымі хрысціянскімі веравызнаннямі на Беларусі, аднак з боку дзяржаўнай улады выразная перавага аддаецца праваслаўнай Царкве. Таксама балюча адчуваецца недахоп еднасці паміж хрысціянамі.

Праўда адбываюцца розныя экуменічныя канферэнцыі, сімпозіумы, сустрэчы, але, па прычыне няшчырага дыялогу з боку праваслаўя, яны практычна не прыносяць пазітыўных вынікаў. Трэба падкрэсліць, што вялікую пагрозу ўяўляюць сабой усялякага роду секты, якія, атрымліваючы шчодрую матэрыяльную дапамогу з Захаду і адначасова спрошчваючы патрабаванні рэлігійнага жыцця, маюць шмат паплечнікаў сярод мясцовага насельніцтва, якое перажывае голад на ўсё духоўнае.

Супастаўляючы дадатныя і адмоўныя назіранні за станам



Касцёла, нельга паддавацца бескрытычнаму аптымізму ці адчуванню страчаных пазіцый, але пры абмеркаванні, а асабліва пры ўстанаўленні адпаведных шляхоў для Касцёла на будучыню, трэба кіравацца цвёрдаю логікаю рэалізму.

Асноўным элементам дэбатаў павінна быць праблема веры ў змёртвыхпаўсталага Хрыста, які жыве ў сваім Касцёле, якога трэба разумець у яго глыбокай сакрамэнтальнай рэальнасці як «misterium», як «камунію» і як «пасланніцтва». У «misterium» мы ўсведамляем, што Езус Хрыстус і Касцёл утвараюць адно; у «камуніі» мы імкнемся да сустрэчы і асабістай камуніі з Езусам Хрыстом; у «пасланніцтве» мы прымаем наказ Хрыста абвяшчаць Евангелле, а ў ім, у першую чаргу, асобу Езуса як Божага Сына і нашага Збаўцу.

Вялікую і адказную ролю ў распаўсюджанні веры ў Езуса Хрыста павінна мець літургія, якая «ў святых таямніцах» вядзе да «жывога спаткання з таямніцаю Бога і сапраўднай камуніяй».

Беручы пад увагу тое, што сучасны чалавек больш слухае сведкаў, чым настаўнікаў, асабліва важным у абвяшчэнні веры, Евангелля і Касцёла становіцца сведчанне сваёю святасцю — «асноўнаю ўмовай сапраўднай евангелізацыі». Таксама неабходныя такія формы жыцця, якія будуць захапляючым знакам веры ў Езуса Хрыста і прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла. Вернасць Богу і Касцёлу, аддансць у распаўсюджванні Хрыстовага Валадарства, згоднасць учынкаў з абвяшчаемым Евангеллем — гэта канкрэтныя і дзейсныя аргументы, якія набліжаюць людзей да Хрыста і Касцёла.

Пры ўзмоцненай «душпастырскай актыўнасці» ў аднове хрысціянства ў Еўропе трэба пастаянна з бязмежным даверам аддаваць гэтую Божую справу Езусу Хрысту, які жыве ў Касцёле. Вялікую карысць і дапамогу можа прынесці распачацце і правядзенне «крууцыяты малітвы» аб адраджэнні хрысціянства ў Еўропе. Тут ідзе гаворка не пра малітоўныя святы, цікавыя і масавыя, але пра ахвярную сапраўдную ціхую малітву, малітву сталых людзей, якая выпрошвала б паступовае перамяненне еўрапейскай духоўнасці.

Я хачу закончыць сцверджаннем, што Езус Хрыстус, які жыве ў Касцёле, яго Добрая Навіна — гэта неад'емная крыніца і фундамент надзеі для Старога Кантынету, і менавіта яны павінны быць цэнтральнай тэмай евангелізацыі. Евангелле гаворыць нам, што хрысціянская надзея ніколі не скончыцца. Заданне евангелізацыі — гэта пастаяннае спалучэнне надзеі, якую ахвяруе Евангелле, з усім багаццем працы і душпастырства Хрыстовага Касцёла.

## У нумары






**Часопіс «Ave Maria»**

№ 1-2 (56-57) 2000
Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада.
Надрукавана на дзяржаўным унітарным прадпрыемстве «Смаленскі паліграфкамбінат» Дзяржкамітэта РФ па друку.
214020, г.Смаленск, вул.Смальнінава, 1.
Зак. № 12. Наклад 9 500 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (172)26 90 92
Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.
Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.




# II Надзвычайны Сход Сіноду Біскупаў для Еўропы

**Рым, 1-23 кастрычніка, 1999 г.**





